ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 12 (2591)
ПЯТНІЦА 24 сакавіка 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



«Тэатр з'яўляецца тым больш магутнай культурнай сілай, чым больш адпавядае ён двум умовам. Па-першае, каб сокі цяперашняй сацыяльнай эпохі па-магчымасці больш жыццёва і больш густа цыркулявалі ў ім, і, па-другое, каб яны былі перапрацаваны ў ім па-мастацку, гэта азначае ператвораны ў відовішча вялікай уражлівай сілы»,—так пісаў першы нарком асветы нашай краіны А. Луначарскі ў артыкуле «Дасягненні тэатра да дзевятай гадавіны Кастрычніка» ў 1926 годзе.

Сёлета наша грамадскасць ацэньвае дасягненні савецкага сцэнічнага мастацтва напярэдадні 50-годдзя ўтварэння братняга Саюза ССР. У лепшых творах, якія паказваюцца ў святле рампы, адчуваецца, што гэта за магутная культурная сіла — тэатр, калі ў ім б'ецца жывая думка і непасрэднае пачуццё, калі ён адпазядае запатрабаванням часу і грамадства!

Штогод новыя і новыя імёны абазначаюцца на афішах, ідзе натуральны працэс абнаўлення труп, маладое пакаленне змяняе ветэранаў і, падхапіўшы эстафету тых, аб кім калісьці гаварыў А. Луначарскі, замацоўвае і развівае лепшыя традыцыі, узбагачае прыёмы раскрыцця складаных характараў нашых сучаснікаў і класічных персанажаў.

*Маладое пакаленне... Пакуль яно авалодвае таямніцамі майстэрства, мабыць, ніхто з юнакоў і дзяўчат і не думае такімі высокімі катэгорыямі: «эстафета», «традыцыі»... Яны вучацца. І прагна ловяць кожнае слова настаўнікаў, папярэднікаў, тых, хто для іх—узор і прыклад. Так, скажам, вось гэтыя маладзенькія вучаніцы, хаваючы сарамлівае чаканне прысуду на сваіх тварах, прыслухоўваюцца да народнай артысткі БССР Аляксандры Нікалаевай. Зорка беларускай балетнай сцэны, яна ведае «ўсё», у яе пільнае вока і бездакорны густ. Ёсць у каго вучыцца! Вучыцца, маючы за мэту служэнне роднаму мастацтву.*

**27 сакавіка адзначаецца Міжнародны дзень тэатра. Матэрыялы, прысвечаныя гэтай падзеі, чытайце на стар. 8.**

Фота А. КАЛЯДЫ.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

## ЗА ПЕРАМОГУ ЧАЛАВЕЧАГА ШЧАСЦЯ

**У гэтыя дні ўвага ўсіх савецкіх людзей, усіх нашых сяброў на планеце была прыкавана да Масквы, дзе сабраўся XV з'езд прафсаюзаў СССР. У ім прыняло ўдзел амаль пяць тысяч пасланцаў рабочага класа, калгаснага сялянства і народнай інтэлігенцыі — прадстаўнікоў больш як 60 нацыянальнасцей краіны.**

**Цэнтральнай падзеяй з'езда была глыбокая і яркая прамова Генеральнага сакратара ЦК КПСС Леаніда Ільіча Брэжнева, у якой ён падвёў вынікі велізарнай работы савецкага народа па выкананні рашэнняў XXIV з'езда КПСС.**

**Мінулы год — першы год дзевятай пяцігодкі быў сапраўды небывалым годам у эканамічным і культурным развіцці савецкай краіны. Да нас сёння едуць адусюль—з далёкіх і блізкіх краін. Едуць вучыцца вопыту ў савецкіх людзей, як будаваць новае жыццё. Збылося прароцтва вялікага рускага літаратара Вісарыёна Бялінскага, які гаварыў, што да нас будуць ехаць не за пянькой, а за мудрасцю, якая тоіцца ў душы рускага народа.**

**У прамове Леаніда Ільіча Брэжнева шмат гаворыцца пра дружбу народаў нашай шматнацыянальнай краіны, якая робіць нас моцнымі, непераможнымі.**

**Я ўспамінаю нядаўнюю паездку беларускіх пісьменнікаў, мастакоў і перадавікоў прамысловасці ў Валгаград. У складзе дэлегацыі былі паэт Анатоль Вялюгін, народны мастак БССР Сяргей Селіханаў, мастакі Міхаіл Зянёнкін і Юзэф Пучынскі, вядомы будаўнік рэспублікі Дзяніс Рыгоравіч Булахаў, каваль Мінскага трактарнага завода Іван Рыгоравіч Тузін, кінарэжысёр Чэслаў Цяўлоўскі, кінаапаратар Міхаіл Бераў і аўтар гэтых радкоў. Горад-герой на Волзе сустрэў нас як родных братоў. Мы расказвалі пра родную Беларусь, пра яе поспехі ў эканамічным і культурным будаўніцтве. Выступленні па тэлебачанні, сустрэчы з працоўнымі горада-героя выліваліся ў дэманстрацыі моцнай дружбы рускага і беларускага народаў.**

**Некалькі гадзін мы правялі на Мамаевым кургане — на той святой вышыні, што паліта крывёй герояў абароны Сталінграда, на якой гарыць цяпер вечны агонь славы, узвышаюцца гранітныя сцены мемарыяла, на сценах напісаны залатымі літарамі тысячы імёнаў байцоў-абаронцаў Сталінграда.**

**Сэрца напаўняецца гордасцю, проста займае дух, калі ўзыходзіш на гэтую вышыню, усю палітую крывёю, але не здадзеную ворагу. І думаеш пра тое, што ў свеце ёсць сотні вышынь, за якія мы павінны змагацца, якія мы не павінны сёння аддаваць нашым ворагам.**

**Мы, савецкія пісьменнікі, усім сваім талентам, усім імкненнем павінны дапамагаць нашай партыі ў свяшчэннай барацьбе за перамогу чалавечага шчасця, чалавечай годнасці.**

## ПАСЯДЖЭННЕ РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ

17 сакавіка пад старшынствам А. Зарыцкага адбылося пасяджэнне рэвізійнай камісіі Саюза пісьменнікаў БССР, на якім быў абмеркаваны і зацверджаны план работы камісіі на 1972 год.

План мае на мэце праверку рэцэнзавання рукапісаў пісьменнікаў у выдавецтвах рэспублікі, рэалізацыі творчых камандзіровак і аналіз практыкі выплаты ганарараў у выданнях, падначаленых СП БССР.

Мяркуецца таксама прааналізаваць работу абласных пісьменніцкіх аддзяленняў і справу з прыёмам у СП БССР. Рэвізійная камісія будзе весці работу і па праверцы дзейнасці беларускага аддзялення Літфонду, яго паліклінікі і Дома творчасці.

Пры абмеркаванні плана са сваімі прапановамі і заўвагамі выступілі М. Гарулёў, А. Мальдзіс, Х. Мальцінскі, Б. Спрынчан, С. Шушкевіч, Г. Шыловіч і іншыя члены рэвізійнай камісіі.

## СПРАВА АГУЛЬНАЯ, МЭТА АДНА

*АБ'ЯДНАНАЕ ПАСЯДЖЭННЕ СЕКЦЫЙ РЭЖЫСУРЫ І КРЫТЫКІ БТА*

**Адной з галоўных задач, пастаўленых партыяй перад крытыкамі, з'яўляецца барацьба за высокі ўзровень мастацтва. А гэтаму можа садзейнічаць толькі прафесійная, кваліфікаваная крытыка. Пра стан нашага тэатральнага мастацтва, узровень крытычнай думкі, узаемаадносіны тэатраў і тэатразнаўцаў ішла гаворка на пасяджэнні секцый рэжысуры і крытыкі Беларускага тэатральнага аб'яднання.**

**Крытыка павінна быць актыўнай, дзейснай, адзначалася на пасяджэнні. Яе клопат—не праходзіць міма ўдалага спектакля, цікавай акцёрскай работы, думаць пра лёс кожнага рэжысёра і акцёра, заўважаючы яго дасягненні, звяртаючы ўвагу на недахопы і пралікі. У час падказаць мастаку, што ён паўтарае сябе, дапамагчы знайсці шлях, дзе яго індывідуальнасць раскрыецца найбольш поўна—ці не ў гэтым абавязак крытыка, які па-сапраўднаму «хварэе» за агульную справу? Кожны артыкул павінен садзейнічаць руху тэатра наперад, нягледзячы на тое, якую ацэнку—станоўчую ці адмоўную — дае крытык пэўнай канкрэтнай з'яве.**

**На жаль, яшчэ часта сустракаюцца рэцэнзіі, у якіх прафесійны разбор СПЕКТАКЛЯЎ падмяняецца аналізам П'ЕСЫ. Крытык не можа аналізаваць спектакль, зыходзячы толькі з уласнага ўяўлення пра п'есу. Перш за ўсё рэцэнзента павінна цікавіць рэжысёрскае бачанне спектакля, яго вобразнае вырашэнне. Галоўнае—зразумець, каб дапамагчы.**

**Ёсць яшчэ катэгорыя крытыкаў, якія вельмі легкадумна ставяцца да такога складанага працэсу, як нараджэнне спектакля, і дзеля прыгожага слоўца «не пашкадуюць роднага бацькі». Але ж ці не меншую шкоду прыносяць легкадумныя рэжысёры, якія скажаюць думку драматурга, падводзяць цэлыя калектывы людзей, што ім давяраюць. Тут ужо ніякія добразычлівыя парады крытыкаў не дапамогуць. Змагацца з шэрасцю, быць бескампрамісным у вырашэнні прынцыповых пытанняў—да гэтага заклікае партыя.**

**Справядліва патрабуючы ад крытыкаў індывідуальнага падыходу да кожнага рэжысёра, не трэба забывацца, што і кожны крытык—індывідуальнасць. Бываюць крытыкі тэмпераментныя і памяркоўныя, тактоўныя і рэзкія. Галоўнае, відаць, не ў іх асабістых якасцях, а ў ступені кампетэнтнасці і таленту.**

**Хоць тэарэтычна ўсе згодны з неабходнасцю крытычных заўваг, практычна яны не ўсім могуць быць прыемныя, таму цяжка патрабаваць, каб адносіны паміж тэатрамі і крытыкамі складаліся ідылічныя. Але гэта зусім не выключае плённых творчых кантактаў паміж імі, узаемаразумення. Таму на пасяджэнні аднадушна была ўхвалена думка аб неабходнасці больш цесных сувязей паміж рэжысёрамі, акцёрамі і тэатразнаўцамі. Было прапанавана, каб крытыкі пасля кожнай прэм'еры абменьваліся думкамі з калектывамі, а тэатры, у сваю чаргу, абмяркоўвалі кожную рэцэнзію, змешчаную ў друку.**

**Ішла гаворка і пра паляпшэнне падрыхтоўкі будучых мастацтвазнаўцаў і журналістаў, якія будуць працаваць у аддзелах культуры газет і часопісаў. Намечана таксама правесці конкурс на лепшую тэатральную рэцэнзію сярод вучняў старэйшых класаў горада Мінска, каб выявіць здольных юнакоў і дзяўчат.**

**Усе прамовы, выступленні, спрэчкі на пасяджэнні зводзіліся да аднаго: справа ў нас агульная—служыць роднаму мастацтву, мэта адзіная—рухаць яго наперад.**

**У пасяджэнні прымалі ўдзел Ул. Няфёд, Ф. Шэйн, Ул. Стэльмах, С. Пятровіч, А. Лабовіч, А. Даброцін, Ц. Кандрашоў, С. Міско, Г. Колас, Б. Бур'ян, А. Саннікаў і іншыя крытыкі і рэжысёры.**

## ТВОРЧЫ ВЕЧАР ПАЭТА

Заўчора, 22 сакавіка, запрашальныя білеты сабралі ў клубе Саюза пісьменнікаў Беларусі аматараў паэзіі — тут адбыўся творчы вечар Рыгора Барадуліна. Вечар вёў намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Грачанікаў. Цёплае, пранікнёнае слова пра паэта, пра яго творчы шлях, пра адметнасць яго паэтычнага голасу ў шматгалоссі нашай паэзіі сказалі Р. Бярозкін, М. Арочка, І. Грамовіч, народны мастак рэспублікі З. Азгур. Вершы Р. Барадуліна прачытаў заслужаны артыст рэспублікі П. Дубашынскі. Перакладчык П. Стэфановіч прачытаў верш паэта, прысвечаны сталіцы братняй Польшчы, на польскай мове. На вечары, горача сустрэты прысутнымі, выступіў Р. Барадулін. Ён чытаў свае новыя вершы.

З пошты ЛіМ-а

## НЕ ТОЛЬКІ ПРЫРОДУ, АЛЕ І МОВУ...

Выйшаў першы нумар інфармацыйна-метадычнага бюлетэня «Родная прырода». Нараджэнне гэтага новага перыядычнага беларускага выдання ўзрадуе шматлікіх яго падпісчыкаў (а іх набралася звыш 44 тысяч) і ўсіх, хто любіць і шануе родную прыроду. Бюлетэнь радуе сваім афармленнем, ён багата ілюстраваны выразнымі мастацкімі здымкамі. У нумары маецца шэраг цікавых матэрыялаў. Асабліва хочацца адзначыць нарыс «Егер з Пілешчыны» В. Хліманава, у якім апавядаецца пра чалавека, што самааддана служыць высакароднай справе аховы і ўзбагачэння роднай прыроды. Спадабаюцца чытачам і артыкулы «Казка Ашмянскага лесу», «Патрыярх Белавежжа» і іншыя.

Усё было б добра, калі б не адна прыкрая акалічнасць. Мы маем на ўвазе няўважлівыя адносіны рэдакцыі да мовы свайго выдання. Толькі гэтым можна вытлумачыць, што старонкі нумару ад першай да апошняй стракацяць словамі, якія не ўжываюцца ў беларускай мове. Вось далёка не поўны пералік іх: кладовыя (кладоўкі), дапаўняльныя (дадатковыя) меры, аддзельныя (асобныя), Днепр (Дняпро), па крайняй меры (прынамсі), лужыцы (лужынкі), жывапісная (маляўнічая), мір (свет) прыроды, адказацца (адмовіцца), выясняецца (высвятляецца) і іншыя. Няправільна падаюцца нават назвы звяроў, птушак, рыб: белка (вавёрка), свірысцель (амялушка), налім (мянтуз), платва (плоткі). У адной і той жа заметцы «Помнікі насякомым» даўганосік называецца то хлопкавым, то бавоўнавым (стар. 31). Трэба таксама напомніць, што вугаль можа быць толькі драўняным, а не драўляным (стар. 32). Не па-беларуску гучыць сказ: «Жыццё ў снезе значна багацей, чым здаецца на першы погляд» (трэба: «значна багацейшае»). Падобных памылак асабліва многа ў бюлетэні.

Рэдакцыя бюлетэня павінна зразумець, што родная мова таксама вялікі скарб народа, і таму яе трэба гэтак жа шанаваць і дбайна ахоўваць, як і родную прыроду. Хочацца спадзявацца, што наступныя нумары «Роднай прыроды» больш не засмуцяць чытачоў моўнымі хібамі.

М. ЕРМАЛОВІЧ.

Маладзечна.

## БІБЛІЯТЭКАР ПАТРЭБЕН УСІМ

Вялізныя светлыя вокны. Каляровы лінолеум падлогі. Кветкі... І — кнігі. Так, цэнтральную бібліятэку Барысава з поўным правам можна назваць палацам кнігі.

Нядзеля. Група дзевяцікласнікаў збіраецца каля бібліяграфічнага аддзела. Да іх падыходзіць Марыя Пракопаўна Падзолка:

— Пачнём заняткі па бібліяграфіі.

Яна вядзе вучняў да картатэкі.

— Уся літаратура падзяляецца на 10 аддзелаў, — кажа Марыя Пракопаўна. — Паглядзіце на гэтую кнігу. Верхні радок індэкса—0. Значыць кніга з аддзела мастацкай літаратуры. Калі адзінка — з грамадска-палітычнага.

— А тэхніка пад якім нумарам? — пытаецца нехта з хлопцаў.

— Шосты. Ну, да яго мы яшчэ дойдзем...

Аказваецца, можна не стаяць перад бібліятэкаркай, пераміна ючыся з нагі на нагу і не ведаючы, што б пачытаць. Паглядзеў картатэку, выбраў кнігу — і калі ласка, атрымлівай. Вучні пачынаюць корпацца ў вузкіх скрынках.

На абанеменце раскладваюць на століках кнігі. Старшы бібліятэкар Эла Аляксандраўна Вераценнікава рыхтуецца да штотыднёвага агляду навінак літаратуры. У тры гадзіны дня, як заўсёды, збіраюцца чытачы, каб пагартаць тыя кнігі, якіх у бібліятэцы яшчэ мала, па адным экземпляры, паслухаць, пра што яны, новыя кнігі.

Чытальная зала запаўняецца. Каля стала ўжо невялікая чарга. Надзея Фёдараўна Анохіна выслухоўвае заказы, раіць, спрачаецца. Гэтыя кароценькія сустрэчы і ёсць тая «паглыбленая работа з чытачом», аб якой гавораць на кожным семінары бібліятэкараў. Што ён хоча ўзяць, гэты чытач? Чым захапляецца? А ці ёсць у яго якая сістэма чытання?

Дарослы чалавек разглядае вокладкі кніг. Гэтая больш зашмальцаваная — дэтэктыў. А побач — Янка Купала, Марці Ларні, Хемінгуэй... Калі ж, нарэшце, прыхільнік дэтэктыву прыйдзе ў бібліятэку і працягне руку да гэтых тамоў? Калі ўсвядоміць сябе ўладальнікам вялізнай сусветнай культуры?

А гэты хлапчук дакладна ведае, што яму патрэбна:

— Брэдберы, калі ласка, «Марсіянскую хроніку».

Здаецца, таксама не кепска. Але ў фармуляры яго-ным усё адна фантастыка, і нічога болей. «Таццяна Ларына? Пeражыткі!» — адказаў ён у мінулы раз.

Калі ж ён зразумее трапяткое характво пушкінскай гераіні?

Можа, таксама праз гады? Але ў любым выпадку гэта будуць парасткі з тых зярнят, якія стараецца закінуць у душу бібліятэкар — гэтымі кароткімі дыялогамі з чытачом.

Давер чытача — гэта ўжо вынік. Чытач добра разумее, хто ты для яго—адзінка кнігавыдачы ці жывы, цікавы чалавек.

Часцей наведвальнікі бібліятэкі — людзі, улюбёныя ў кнігі. З імі лягчэй і цяжэй. Яны разумеюць: не бібліятэкара віна, што пэўнай кнігі няма, а ўсё ж нейкі масток даверу рушыцца. Бібліятэкары, і найчасцей Мая Іванаўна Хаваўка, загадчыца, вышукваюць усё магчымае і немагчымае, каб неяк павялічыць кніжны фонд. Летась на бібліятэку было выдзелена 4.700 рублёў. Гарвыканком пайшоў насустрач, выдзеліў яшчэ паўтары тысячы. Канчаўся год, і ўзнікла сітуацыя: грошы ёсць — няма кніг. Тых кніг, якіх патрабуюць, просяць чытачы. Абівалі парогі бібкалектара, хадзілі па кнігарнях, пісалі, званілі.

Увогуле, такія сітуацыі знаёмыя ўсім бібліятэкам. Кніг выпускаецца мноства. І тым не меней добрых, цікавых не хапае, як не хапае і падручнікаў. Калі працуе раўнадушны чалавек, то кніжныя паліцы завалены, але адразу бачна: кніжкі стаяць новенькія, не кранутыя.

У Барысаўскай гарадской цэнтральнай бібліятэцы не чапаных чытачом кніг я не бачыла. Роўныя, акуратныя шэрагі іх увесь час перабіраюцца па адной, па некалькі, то вяртаючыся на свае месцы, то выходзячы ў шырокі свет. Кнігі тут не стаяць.

Найбольш людна ў зале дамашняга абанемента. Спрытна завіхаюцца ля стэнда Соф'я Барысаўна Чытліна, Мая Васільеўна Гіль.

Нядзеля — значыць, абавязкова прыйдуць Ніна Панкавец, майстар фабрыкі «Піяніна», пенсіянерка Клаўдзія Андрэеўна Важэнінава, рабочы дрэваапрацоўчага камбіната імя Камінтэрна Мечыслаў Драніца—ды хіба можна пералічыць усіх тых, каму бібліятэка стала сапраўдным сябрам і дарадчыкам. Тут і цікава і ўтульна. Вакол кветкі. Грошай на кветкі не густа. Дык гэта яны, чытачы, прынеслі — і кветкі, і вазончыкі рознакаляровыя. І аформіць бібліятэку дапамаглі. Ды і цяпер дапамагаюць. Колькі лекцый, гутарак правялі ў бібліятэцы юрыст Рыгор Гінзбург і настаўніца Лідзія Валканоўская!

Сувязі з чытачамі тут цесныя, даўнія. Прыходзіў па кнігі — яшчэ ў старую бібліятэку — рабочы фабрыкі «Піяніна» Валерый Круглік. «А чаму б табе не ўзяцца за павышэнне кваліфікацыі?» — не раз гаварылі яму. І не толькі гаварылі— падрыхтуюць, бывала, адну-дзве кнігі па слясарнай справе, зацікавяць. Потым ён і сам пачаў спісы патрэбных кніг прыносіць, прасіць, каб дапамаглі знайсці. Атрымаў разрад слесара-сантэхніка — у бібліятэку прыйшоў пахваліцца. А Наташа Арлова? Яшчэ школьніцай была актывісткаю ў бібліятэцы, потым прыбягала з работы — стомленая, але вясёлая: «Як думаеце, паступлю ў палітэхнікум?» Паступіла. І не ведала яна часам, колькі намаганняў каштавала бібліятэкару патрэбная ёй кніга, якую шукалі і знаходзілі нават у Мінску. Цяжка з падручнікамі. Дастануць адзін-два экземпляры, выдадуць. А той-сёй чытач возьме — і «згубіць». Заплаціць, колькі трэба, абы пакінуць падручнік пры сабе. Намаганні, якія даводзіцца траціць, каб вярнуць кнігу, падчас гераічныя. І гэта самае, бадай, непрыемнае ў рабоце бібліятэкара.

Гарадская бібліятэка ў Барысаве ўтульная. І не толькі выглядам, афармленнем, але і нейкай заўсёднай гасціннасцю.

Апошнія чытачы неахвотна пакідаюць бібліятэку...

Калі ідзеш вечарам па Барысаве і бачыш юнакоў і дзяўчат, што бязмэтна ходзяць узад-уперад па вуліцах, не ведаюць, чым заняцца, думаеш: як патрэбны ім, гэтым маладым людзям, настаўнік, культработнік, бібліятэкар...

В. БЕЛЯЗЕКА.

# СВЯТА БРАТНІХ КУЛЬТУР

**Віктар ГРАМЫКА,**
старшыня праўлення
Саюза мастакоў БССР.

У СТАЛІЦЫ нашай Радзімы Маскве экспануецца выстаўка твораў выяўленчага мастацтва Савецкай Беларусі і Савецкай Малдавіі. Мы атрымалі магчымасць не толькі прадэманстраваць перад усесаюзным гледачом многае з таго лепшага, што створана мастакамі Савецкай Беларусі за апошнія гады. Мы яшчэ на саміх сябе, на сваё мастацтва глядзім быццам у перспектыве. Глядзім больш цвяроза і больш патрабавальна, ацэньваючы і нашы здабыткі, і тое, чаго нам пакуль не хапае. У такой ацэнцы несумненна паможа параўнанне нашай часткі экспазіцыі як з малдаўскай, так і з усімі астатнімі, што папярэднічалі ёй і што будуць разгорнуты ў Манежы пасля. Гэта вельмі важна — мець магчымасць для адной нацыянальнай школы разглядаць сябе ў шэрагу іншых нацыянальных школ, актыўна ўключаць іх дасягненні ў свой творчы арсенал. Такая магчымасць — адна з цудоўнейшых асаблівасцей усяго савецкага мастацтва; у гэтай магчымасці — адзін з магутнейшых стымулаў руху савецкага мастацтва наперад. Узаемадзеянне мастацтваў розных рэспублік Савецкага Саюза прыносіць свае плённыя вынікі — і гэта відаць па сёлетніх выстаўках у Манежы.

Ужо самыя першыя дні работы выстаўкі паказалі, што яна — не радавая як па сваім аб'ёме, так і па значэнні. Экспазіцыя памагае больш акрэслена ўявіць сабе істотныя тэндэнцыі развіцця сучаснага беларускага савецкага выяўленчага мастацтва. Яны, гэтыя тэндэнцыі — і ў актыўна выяўленым імкненні мастакоў Савецкай Беларусі да глыбіннага спасцігнення і адлюстравання гістарычнага мінулага беларускага народа, і перш за ўсё — яго мужнасці і гераізму ў гады Вялікай Айчыннай вайны, і ў натхнёным імкненні адлюстраваць сённяшні дзень нашай рэспублікі. На тэмы нашай гісторыі, даўняй і нядаўняй, нашы мастакі глядзяць сённяшнімі вачыма. Тым самым мастакоўскае асэнсаванне мінулага становіцца ў рад з'яў сучаснага духоўнага жыцця мастацтва. Мастак падыходзіць да мінулага не як архіварыус, а як сучасны творца, для якога мінулае — не прадмет простай фіксацыі рэстаўратарскага характару, маляўнічага ўзнаўлення на палатне тых ці іншых падзей і характараў, а прадмет такога эмацыянальнага асэнсавання, якое дапамагае глыбей разумець сучаснасць: з мінулага быццам выкрышталізоўваецца тое, чым дорага яно сучаснасці, чым жывіцца ў мінулым наш сённяшні дух.

І ўсё ж цяпер, калі мы паспрабавалі глянуць на створанае намі нібы вачыма староннягa гледача, абсалютна відавочна: куды разнастайней павінен быць эмацыянальны свет мастака, які распрацоўвае тэматыку гераічнага мінулага. У нас у тэме вайны пераважае адна нейкая эмацыянальная нота. Хай сабе і правільна бярэцца яна. Але ж не з адной ноты складаецца сімфонія. Куды багацей тая палітра эмоцый, якую нараджае ў душы гераічнае мінулае народа! Варта толькі больш актыўна прыслухацца сэрцам!

Мы рады выступаць перад усесаюзным гледачом поплеч з братамі-малдаванамі. Кішынёў і Мінск звязаны адным мерыдыянам. Але повязі нашай дружбы, зразумела ж, выходзяць далёка за геаграфічныя рамкі. Повязі нашай дружбы — перш за ўсё ў агульнасці сацыялістычных культур. І ў гэтым сэнсе нас яднае той высакародны парыў да мастацтва сацыялістычнага рэалізму, якое нясе ў свет самыя высакародныя гуманістычныя каштоўнасці. Парыў, які кожная з мастацкіх культур народаў нашай краіны рэалізуе па-свойму. Кожная з мастацкіх культур народаў нашай краіны развівае свае нацыянальныя традыцыі, адначасова, ва ўзаемадзеянні з усімі астатнімі культурамі братніх народаў, спрыяючы з'яўленню і замацаванню традыцый новых, народжаных уласна савецкай сацыялістычнай культурай.

І ў нас, і ў малдаван работы — разнастайныя па тэмах, разнастайныя па творчых почырках. Але яднае іх адно пачуццё — вялікае захапленне справамі савецкага народа, агромністым рухам савецкага народа ў камуністычную будучыню.



М. ДАНЦЫГ. Мінск старажытны—малады.

# ЗАРУКА НОВЫХ ЗДЗЯЙСНЕННЯЎ

**Дзмітрый ГАЛЬЦОЎ,**
старшыня секцыі крытыкі і мастацтвазнаўства
Саюза мастакоў Малдаўскай ССР

АГУЛЬНАВЯДОМА, што адным з галоўных рухаючых фактараў развіцця выяўленчага мастацтва ў кожнай з братніх савецкіх рэспублік з'яўляецца ўзаемадзеянне з культурамі братніх народаў. Гэтае ўзаемадзеянне памагае вастрэй адчуваць усё ўзрастаючы ўзровень творчых задач будаўніцтва сацыялістычнай культуры на аснове прынцыпаў ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Нельга не адзначыць таксама становучы прынцып паказу выяўленчага мастацтва ў Маскве па рэспубліках.

Параўноўваючы беларускую і малдаўскую часткі экспазіцыі, можна заўважыць не так ужо мала агульнага і пэўную розніцу. У беларускіх мастакоў пераважае тэматыка партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Слушная, бадай, думка, што эмацыянальны дыяпазон гэтай тэмы мог быць шырэйшы. У малдаўскіх мастакоў таксама назіраецца пэўны схіл у асэнсаванне мінулага, параўнальна нядаўняга—гадоў усталявання Савецкай улады ў Малдавіі, падзей Вялікай Айчыннай вайны.

Гэтак жа, як і беларускія мастакі, асэнсоўваючы мінулае, малдаўскія жывапісцы і графікі імкнуцца глядзець на яго сённяшнімі вачыма, па-мастакоўску высвятляць «связь времен».

Так, напрыклад, вось ужо больш дзесяцігоддзя вядзе графічны летапіс рэвалюцыі ў Малдавіі і барацьбы за Савецкую ўладу народны мастак Малдаўскай ССР Л. Грыгарашанка. Прыкоўваюць увагу яго новыя лісты. Творчасць гэтага мастака развіваецца паслядоўна, самабытна. Ён на рэдкасць мэтанакіраваны ў асваенні вялікай гераічнай тэмы.

Палымяны ў вырашэнні тэмы першых дзён Савецкай улады ў Малдавіі жывапісец М. Грэку. У яго творах уражвае магутная стыхія колеру, энергія формы. Яго палітра быццам увабрала ў сябе і трансфармавала колеры народнага адзення, дываноў, керамікі.

Малдаўскія мастакі актыўна асэнсоўваюць і развіваюць на новай, сучаснай аснове нацыянальныя мастацкія традыцыі. Гэты працэс закрануў мастакоў усіх пакаленняў. Характэрна, што на пачатку было проста «цытаванне» іконы, лубка. А пасля ўжо з'явіліся элементы трансфармацыі засвоенага з нацыянальных традыцый. Увогуле, працэс гэты і характар яго працякання — не лакальная нейкая з'ява. У стаўленні да нацыянальных традыцый і ў спосабах іх засваення ў нашых М. Грэку і І. Віеру, напрыклад, ёсць нешта агульнае з Сар'янам або Нарыманбекавым.

Параўноўваючы нашы здабыткі ў галіне станковай карціны са здабыткамі рускіх і ўкраінскіх мастакоў (цяпер нам ужо можна будзе дакладней праводзіць паралелі і з беларускім мастацтвам), мы пераконваемся, што карціна сёння набывае новыя якасці. Ва ўсім мастацкім працэсе шматнацыянальнага савецкага жывапісу відаць пэўная цяга да элементаў сімволікі, алегорыі. Дарэчы, такая цяга назіраецца і ў жывапісе Беларусі.

Характэрна для сучаснага этапу развіцця малдаўскага мастацтва цяга жывапісцаў да паэтычных сродкаў выяўлення задумы. Гэта адразу відаць— пры першым жа паглядзе на экспазіцыю. Праўда, часам з'яўляюцца і такія творы, у якіх дэкаратыўнасць быццам «крычыць».

Назіраюцца сёння ў малдаўскім мастацтве многія няпростыя працэсы. У тым ліку і ў асваенні сучаснай тэмы. Тут першынство належыць партрэту. З'яўляюцца і карціны, у якіх у цэнтры ўвагі вобраз сучасніка. Так, напрыклад, мастачка В. Русу-Чобану — добры партрэтыст, аўтар цікавых нацюрмортаў, пераадольваючы элементы так званай «параднасці», падышла да работ такога плана, як, скажам, «Месяцаход». Мастачка добра адчувае наш час. Можа толькі часам уяўляюцца яе работы трохі занадта рацыянальнымі.

Выстаўка паказвае і пэўныя дасягненні малдаўскай станковай і кніжнай графікі. У кніжнай графіцы асабліва паспяхова працуе ў апошні час І. Багдэска. Ён сапраўды плённа засвойвае ўрокі Фаворскага.

Вось, прыкладна, асноўнае, што хацелася сказаць у сувязі з малдаўскай часткай экспазіцыі. А цяпер пра тое, што ўразіла сярод работ братоў-беларусаў.

У творчасці М. Савіцкага я асабіста бачу трывалае засваенне ўрокаў такіх мастакоў, як В. Сурыкаў. Пра гэта думаеш, калі глядзіш яго палатно «Пакаранне смерцю». Вельмі своеасабліва вырашана тэма рэквіема ў новай карціне М. Савіцкага «Забойства сям'і партызана». Безумоўна, значэнне сюжэта — значна шырэй пэўнага лакальнага факта. Вельмі эмацыянальнае палатно, пра якое можна сказаць, што дзеля яго ўсебаковага засваення патрэбен значны час — яму суджана доўгае жыццё. А «Поле» — твор з вялікім зарадам сумлення. Мастак узнімае значную праблему адносін чалавека да сваёй працы.

Тонкая паэзія ў пейзажы В. Грамыкі. А яго карціна «Жанчынам Вялікай Айчыннай прысвячаецца» — твор, які мае багаты падтэкст.

З прыемнасцю пазнаёміўся я з новымі работамі Г. Вашчанкі. У свой час ён быў маім настаўнікам. Заўсёды ўражвала паэтычнасць яго работ. Яна па-новаму праяўляецца ў мастака сёння. Можна сказаць, што імкненне Г. Вашчанкі да пошукаў абагульненага вобраза прыносіць прыкметны плён.

Створаныя У. Стальмашонкам вобразы камісараў рэвалюцыі і ягоны партрэт Р. Шырмы, пейзажы В. Цвірко, работы В. Сахненкі, М. Данцыга —усё гэта патрабуе дэталёвага асэнсавання, але хвалюе адразу.

Варта параўнаць даўнейшы і новы нацюрморты М. Данцыга. Ранейшы нацюрморт на тэму Вялікай Айчыннай вайны — сапраўдная творчая знаходка. А вось «Трывога» выклікае пэўнае пярэчанне. Дзеля чаго такі абвостраны «крык»? Хочацца засцерагчы мастака і ад некаторай жорсткасці самога жывапісу.

Цяжка сказаць у кароткіх нататках пра многія цікавыя работы беларускага раздзела экспазіцыі. Але пра «Пакорлівую» Б. Заборава не сказаць немагчыма. Мне даводзілася бачыць творы многіх графікаў, у тым ліку і нашых, малдаўскіх, якія, ілюструючы Дастаеўскага, ідуць шляхам стварэння «бруднага асяроддзя». Б. Забораў у сваіх лістах да «Пакорлівай» пайшоў прынцыпова іншым шляхам — шляхам стварэння характараў, вобразаў. Ён быццам адчуў, што Дастаеўскі куды шырэй, што наўрад ці тут дарэчы «лабавы падыход» да перадачы ў графіцы змрочнага каларыту ягоных твораў.

У завяршэнне не магу не падзяліць думку многіх маіх малдаўскіх і беларускіх калег аб тым, што цяперашняя выстаўка ў Манежы — зарука новых здзяйсненняў нашых братніх культур.

ПЯЦІГОДКА. ГОД ДРУГІ

М. ЗАМСКІ

# СЛУЦКІ ДЗЁННІК

*Дзень трэці*

## РАЁННЫ АРХІТЭКТАР

— Паедземце ў Казловічы, — прапанаваў мне раённы архітэктар Віталь Сільвестравіч Сазанавец.— Самае лепшае—пабачыць усё на свае вочы.

Ісціна. Я ўжо нацешыўся карцінкамі, што вісяць у кабінеце архітэктара. Не дамы на іх—лялькі. Але, бывае, гладка на паперы, а...

Адным словам, едзем у Казловічы, дзе новы калгасны пасёлак. Машыну Віталь Сільвестравіч папрасіў у свайго шэфа—намесніка старшыні райвыканкома па будаўніцтве Усевалада Паўлавіча Бажко. А той аказаўся вельмі гасцінным чалавекам, не толькі машыну даў, але сам рашыў з намі ехаць.

Па дарозе размова ў нас натуральна круціцца вакол нядаўняй пастановы ЦК партыі і ўрада рэспублікі аб будаўніцтве ў вёсцы.

— Пастанова прымусіць будаўнічыя арганізацыі лепш варушыцца,—рэзюмуе Бажко.—Вы ж паглядзіце, які ў нас напружаны план. За пяцігодку трэба пабудаваць 7 школ, 14 клубаў, 6 магазінаў, 11 дзіцячых садоў, 7 камбінатаў бытавой абслугі, 6 сталовых, тысячы квадратных метраў жытла, а рамонт, а газіфікацыя...

— А яшчэ і іншы клопат ёсць — дзе і як усё гэта размясціць, — устаўляе Віталь Сільвестравіч. — Пасля вайны ў нас як будавалі—дзе якому начальніку спадабалася, там і ставілі школу, клуб, вытворчыя памяшканні. Не было часу думаць, што будзе праз пяцьдзесяць гадоў. А зараз ясна, што развіваць мэтазгодна далёка не ўсе вёскі—толькі самыя перспектыўныя. З улікам гэтага і распрацавана схема раённай планіроўкі. З 224 населеных пунктаў раёна развіваць будзем толькі 77...

— З чаго зыходзілі пры вызначэнні перспектыўнасці? — пытаюся я.

— Ды шмат розных кампанентаў улічана—дэмаграфічныя дадзеныя, вытворчасць, ландшафт, дарогі...

— І не крыўдзяцца людзі? Скажам, жыве чалавек у вёсцы, бацькі-дзяды яго тут спакон веку жылі, і раптам дазнаецца, што вёска ягоная «не перспектыўная»...

Архітэктар адказвае не адразу. Доўга глядзіць у акенца машыны, пасля павольна паварочваецца:

— Наогул, усё гэта вельмі складана. Вось ужо сапраўды дзе сем разоў адмер... Вырашаем разам з мясцовымі гаспадарамі.

— І заўсёды прыходзіце да згоды?

— Амаль. Хаця бываюць і спрэчкі. Бывае, што і мы памыляемся. Вунь у калгасе імя Леніна намецілі мы адзін населены пункт для развіцця ў ім калгаснага цэнтра, а мясцовы старшыня—другі. Спрачаліся, спрачаліся, пераканаў ён нас. Цяпер бачым, што меў старшыня рацыю... Ну, а што крыўдзяцца людзі... Расказваем, тлумачым, што да кожнай вёсачкі немагчыма падвесці камунікацыі—водаправод, каналізацыю, газ і г. д. У прынцыпе ўсё разлічана на тое, каб насельніцтва, як мы кажам, неперспектыўных вёсак паступова ссяліць у буйныя населеныя пункты, забяспечаныя ўсімі камунальнымі выгодамі. Справа гэтая, вядома, не аднаго года, не адной, мусіць пяцігодкі...

Машына тым часам уязджае ў Казловічы. Едзем спачатку па старой вёсцы. Хаця вызначэнне «старая» тут не вельмі падыходзіць. Паабапал асфальтавай дарогі ладныя драўляныя дамы пад жалезам, гонтай, шыферам. Дамы аддзяляе ад дарогі невысокі, акуратны плот, перад кожнай сядзібай металічныя вароты з веснічкамі, дарэчы, вароты і веснічкі ўсюды аднолькавыя. Не сказаць, каб нешта асаблівае, а выгляд вясковай вуліцы змяніўся, змяніўся да лепшага. Аказваецца, і стандартныя рэчы могуць цешыць вока, гледзячы дзе і як іх ужыць.

— Падабаецца?—пытаецца Віталь Сільвестравіч. Задаволена ўсміхаецца.—Наша ідэя. Ды не ўсім адразу спадабалася...

Мы да гэтага ўжо нямала гутарылі з Сазанаўцом, і я зразумеў, што ўмовы работы ў раённага, або дакладней, вясковага архітэктара трохі іншыя, чым у архітэктара, які працуе ў горадзе. І справа не толькі ў тым, што вымушаны яны мысліць рознымі маштабнымі катэгорыямі. Сельскаму архітэктару, у адрозненне ад гарадскога, у большасці выпадкаў прыходзіцца мець справу, калі можна так сказаць, з прыватным сектарам.

Людзі будуюцца, будуюцца інтэнсіўна. Рэдка знойдзеш вёску, дзе б за год не было некалькі ўваходзін. Раней як было—аблюбаваў чалавек месца, тупнуў нагой—тут будзем ставіць. Едзеш па вёсках, і бывае, дзіву даешся—адна хата ледзь не на дарогу ўзлезла, другая на задах хаваецца, а трэцяя зусім наўскасяк да вуліцы стаіць—не ў два, не ў тры. Адным словам, мая хата, куды хачу, туды і варачу.

Вось ужо некалькі гадоў у раёне з гэтай адвольнасцю змагаюцца, змагаюцца сур'ёзна і настойліва. Хочаш пабудавацца, бяры візу ў архітэктара. А ён табе не толькі месца пакажа, а яшчэ і з апошнім каталогам пазнаёміць—выбірай дом, які табе больш да спадобы.

Вось чаму апошнім часам на Случчыне вёскі набываюць усё больш культурны, культурны ў архітэктурным сэнсе, выгляд.

Хаця, бывае, не абыходзіцца і без канфліктаў. Быў неяк выпадак, калі паставіў чалавек хату за адну ноч ля самай шашы. Вядома, без дазволу.

— Давялося з ім пагаварыць на высокіх нотах, — успамінаў Віталь Сільвестравіч. — Праз два дні перавёз хату куды трэба.

...Праязджаем масток, паварочваем направа і перад намі новыя Казловічы—шырокая прамая вуліца з адна- і двухпавярховымі мураванымі дамамі.

У канцы вуліцы рыштаванні, па якіх угадваецца нейкая вялікая будоўля.

— Тут будзе гандлёвы цэнтр,— тлумачыць Усевалад Паўлавіч, — з вялікім магазінам і кафэ.

Апошнім часам шмат спрачаюцца пра тое, якой павінна быць вёска заўтрашняга дня.

Спрачаюцца будаўнікі, архітэктары, праекціроўшчыкі, спрачаюцца літаратары. Думкі выказваюцца самыя процілеглыя. Адны за тое, каб прыйшоў у вёску горад. З усім яго побытам і рытмам. Для другіх і адна камяніца ў вёсцы ледзь не грэх, маўляў, усю прыгажосць вясковую псуе.

Я пытаюся, што думае пра гэта Віталь Сільвестравіч.

— Ісціна, на маю думку, недзе пасярэдзіне,—гаворыць ён. — Ясна, што поўнасцю скідваць з рахунку побыт, традыцыі вясковага жыхара нельга. І ў той жа час вясковец з радасцю прымае гарадскі камфорт. Хто ж адмовіцца ад газавай пліты, ад гарачай вады, паравога ацяплення. А хто сказаў, што нельга гэта спалучаць і з уласным садком, жывёлай, гародам, без якіх пакуль не можа абысціся вясковы жыхар?

Вось такой лініі мы трымаліся, і прыемна, што апошняя пастанова аб будаўніцтве ў вёсцы супадае з ёю...

Мы заходзім у адзін з двухпавярховых катэджаў. Ён на адну сям'ю. Кватэра, як гавораць архітэктары, на два ўзроўні. Унізе чатыры пакоі, столькі ж наверсе. «Узроўні» злучае вузкая вінтавая лесвіца. У кухні побач з газавай плітой нечаканая тут руская печ, абліцаваная кафляй. Гэта, аказваецца, сам гаспадар пастараўся, калі ўвабраліся ўжо.

Гід наш—хлопчык гадоў дванаццаці.

— Бацька на рабоце, а маці з фермы прыйшла, наверсе ў спальні адпачывае,—растлумачыў ён.

Катэдж гэты будаваўся самы першы. Ёсць у ім пэўныя архітэктурныя недахопы. Скажам, вельмі вузкая лесвіца—удваіх ледзь размінешся. Калі будавалі іншыя—усё гэта ўлічылі.

Заходзім у другі дом—таксама двухпавярховы, толькі ўжо на дзве сям'і. Сустракае нас маладзіца з двума маленькімі дзецьмі. Жыве тут сям'я калгаснага інжынера.

З гонарам паказвае жанчына свае харомы. Тут таксама па чатыры пакоі на кожным паверсе. Дзве спальні, дзіцячы пакой, гасціная, сталовая і г. д.

— З ахвотай ішлі сюды?—пытаюся я.

— Ну, а чаму ж не. Усё ж выгоды, як у горадзе. Прыйшоў муж з работы—калі ласка, прымай ванну.

Калгас здае катэджы на выплату. Тэрмін выплаты 15 гадоў. Грошы, вядома, не малыя, але жадаючых многа. Цэлая чарга.

Выходзім на двор. Метраў за дваццаць цагляны хлеў. Так ля кожнага катэджа.

— Праўда, псуе гэта ўсю карціну?—ці то пытаецца, ці то сцвярджае архітэктар. — А вунь, бачыце, да аднаго хлява яшчэ і гараж прыбудаваны. Мяне за яго ў аблвыканкоме пакрытыкавалі ,маўляў, не дагледзеў. Складана ўсё. З аднаго боку, псуюць гэтыя прыбудовы ўвесь выгляд, з другога—людзі жывёлу трымаюць, зноў жа кармы трэба недзе схаваць. Ды і звычка старая, каб усё было пад бокам. Гэта ў горадзе чалавеку дадуць гараж на дзесятай вуліцы, куды трэба аўтобусам дабірацца, ён яшчэ і дзякуй скажа. А тут чалавек хоча, каб яму з уласнага акенца была яго ўласная машына бачна. Думаю, надалей след нам падумаць пра гаражы, бо легкавушак у вёсцы становіцца ўсё больш. А вось хлеўчукі... У пастанове на гэты конт ясна сказана, што пабудовы для ўтрымання асабістай жывёлы і прысядзібныя ўчасткі трэба выносіць за межы жылой зоны. Вельмі разумна.

Трэба падумаць і аб прагонах для жывёлы. Я разумею, для тых, хто не жыве ў вёсцы, хто бывае тут наездамі гэта вельмі паэтычна—цёплы летні вечар, на вясковай вуліцы павольна ідуць сытыя каровы... А пасля тых кароў, між іншым, не прадыхнуць ад пылу, ды ўся вуліца ў гноі. А паспрабуйце які газон ці кветнік зрабіць ля дарогі—умомант вытапчуць. У вёсцы са старой планіроўкай рады тут не дасі. А ў новых можна.

Віталь Сільвестравіч вымае блакнот, пачынае маляваць.

— Усё досыць проста. За дамамі, паралельна вуліцы, трэба рабіць спецыяльныя прагоны, якія будуць весці проста да хлявоў, ці, скажам, да фермы...

Мы зноў у дарозе, гасцінныя гаспадары вязуць мяне ў калгас «Памяць Ільіча», дзе пабудаваны дом культуры з вялікай спартыўнай залай.

— Пабачыце, не горшыя, чым у горадзе, — гаворыць архітэктар з гонарам.

Ну, што ж, мае ён для гэтага гонару ўсе падставы.

Заканчэнне. Пачатак у №№ 10, 11.



З вобразам Міная Шмырова ўжо знаёмілі нас дакументалісты. Мы памятаем поўную паэзіі сцэну з партызанскай хронікі, якая ўвайшла ў многія дакументальныя стужкі, дзе праслаўлены камандзір зняты ў лясным лагеры сярод сваіх паплечнікаў. У гэтым невялікім па метражы эпізодзе адчувалася атмасфера шчырага і мужнага чалавечага братэрства. «Бацька»—ласкавае прозвішча не проста камандзіра, але і роднага чалавека, які зрабіўся для паплечнікаў сімвалам адзінай партызанскай сям'і.

Бацька... Гэтае слова мае ў новым мастацкім фільме «Бацька», створаным студыяй «Беларусьфільм», і іншы, трагічны сэнс. Бацька чатырох малых дзяцей, маці якіх памерла. Бацька чатырох заложнікаў, які стаіць перад выбарам—здацца фашыстам ці заплаціць за магчымасць барацьбы і перамогі жыццём сваіх дзяцей. У беларускіх кінематаграфістаў былі папярэднікі ў паэзіі і драматургіі, якія ўжо звярталіся да гэтай трагічнай калізіі. Аўтары фільма «Бацька» (сцэнарыст Расціслаў Шмыроў, рэжысёр Барыс Сцяпанаў, аператар Ігар Рамішэўскі, мастак Уладзімір Дзяменцьеў, кампазітар Уладзімір Чараднічэнка) імкнуцца перш за ўсё зрокавымі, пластычнымі кінематаграфічнымі сродкамі раскрыць пакуты чалавечай душы і веліч чалавека-барацьбіта.

Не раз героямі нацыянальнага кінематографа рабіліся рэальныя людзі. Пачалася гэтая традыцыя з фільма «Канстанцін Заслонаў».

## АДЗІН З НАШЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ...

*МУЗЕЙ У РАЁНЕ — АДНА З ВАЖНЕЙШЫХ КУЛЬТАСВЕТУСТАНОЎ. ПОСПЕХ ЯГО РАБОТЫ — У ШЫРОКІМ АЎТАРСКІМ АКТЫВЕ. АБ ГЭТЫМ ГАВОРАЦЬ НОВЫЯ ЗНАХОДКІ КРЫЧАЎСКАГА КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ — ПІСЬМЫ І МАЛЮНКІ МАСТАКА, ЯКІ ЎДЗЕЛЬНІЧАЎ У ВЫЗВАЛЕННІ МАГІЛЕЎШЧЫНЫ АД ФАШЫСТАЎ.*

Наш раённы музей завяршае работу над новай экспазіцыяй. Прыбудаваўшы да старога будынка дзве залы, мы цяпер зможам больш шырока адлюстраваць гісторыю савецкага перыяду роднай краіны. Аб гэтым мы марылі. Бо калі савецкі перыяд даецца ў маленькіх пакойчыках, то ўжо самі экспанаты, сама ідэя пратэстуе супраць такога пракруставага ложа. Уваходзіш у залу раённага або гарадскога музея і адразу адчуваеш сябе абмежаваным, збедненым. Дарэчы, гэтыя думкі і адчуванні яшчэ не кранаюць нашых архітэктараў, якім настаў час распрацаваць праекты раённага або гарадскога музея— у два паверхі з усімі службовымі пакоямі, пры экспазіцыйнай плошчы такога музея метраў на 600—700.

Праўда, часам завядзеш пра гэта размову і пачуеш: а дзе ўзяць патрэбную колькасць экспанатаў? Дзіўна чуць гэта ад музейных работнікаў. Няма экспанатаў? Ды за гэта трэба адхіляць чалавека ад музейнай работы. Праціўнікі стварэння мясцовых музеяў, а такія ёсць у нас і ў раённых цэнтрах, і ў сталіцы, спасылаюцца і на тое, што нямала раённых музеяў працуе дрэнна. Маўляў, зробяць экспазіцыю і дзесяць гадоў пасля гэтага не вядуць пошукавай работы, працуюць без краязнаўчага актыву. Так бывае. Але ж ніхто яшчэ не закрываў завод або школу, калі яны дрэнна працуюць. А вось музеі ў нас закрывалі, выдаючы гэта за перавод музея на грамадскія асновы. І колькі гістарычных каштоўнасцей тады загінула беззваротна.

У нас у Крычаве праблема экспанатаў ніколі не стаяла. Мы заўсёды іх мелі для разгортвання экспазіцыі ў значна большым памяшканні, чым тое, што маем зараз. Цяпер у нас больш

# ПРЫЦЯГАЛЬНАСЦЬ МУЖНАГА ХАРАКТАРУ

Алена Мазанік стала прататыпам галоўнай гераіні фільма «Гадзіннік спыніўся апоўначы» Марвіны Казаніч. Вера Харужая—Веранікі Карчэўскай у карціне «Пісьмы да жывых».

Факт і яго мастацкае асэнсаванне, факт і выдумка—іх дыялектычныя суадносіны вельмі складаныя, асабліва калі ў аснове твора жыццёвая гісторыя рэальнага чалавека. Аўтары фільма «Бацька» імкнуліся ўлічыць вопыт сваіх калег, зрабіць акцэнт на грамадскай значнасці дзейнасці легендарнага партызанскага камандзіра Героя Савецкага Саюза Міная Пілілавіча Шмырова, стваральніка Першай беларускай партызанскай брыгады.

У карціне адчуваецца ўсхваляванасць яе стваральнікаў. Мо гэтаму садзейнічала тое, што фільм здымаўся ў Гарадоцкім раёне, там, дзе змагалася калісьці з фашыстамі Першая беларуская партызанская брыгада. Парады мясцовых жыхароў, былых удзельнікаў падзей таго часу, нямала дапамаглі кінематаграфістам.

Стыль фільма—адсутнасць усякай афектацыі. Выканаўца галоўнай ролі Юрый Гарабец разумее, што ў такой гранічна завостранай сітуацыі лёгка ўпасці ў меладраматызм. У яго выкананні бацька перш за ўсё—натура моцная, неардынарная. Работа Ю. Гарабца звярнула на сябе ўвагу журы і грамадскасці на Усесаюзным фестывалі ў Тбілісі. Ён атрымаў прэмію за лепшае выкананне мужчынскай ролі.

Уражваюць вочы артыста. Набліжаныя экранам да нас, яны даюць магчымасць адчуць і сілу, і ўпэўненасць, і ўнутраную перакананасць, і ў той жа час ваганні, цяжкі смутак ад непапраўных страт.



Кадр з фільма «Бацька».

Мо Ю. Гарабец убачыў у ролі штосьці блізкае асабіста яму, бо, не задумваючыся, пакінуў дзеля здымак працу ў тэатры. У адным з інтэрв'ю ён сказаў, што даўно чакаў такой ролі. быў унутрана да яе падрыхтаваны. Бацька Гарабца загінуў у баі пад Магілёвам, і для акцёра было важным «выканаць сыноўні, грамадзянскі, акцёрскі абавязак».

Акцёр імкнецца паказаць, што яго герой выбраў найцяжэйшы шлях, яму лягчэй было б заплаціць сваім жыццём, чым безабароннымі дзецьмі, пасля смерці якіх яго асабістае жыццё ўжо не мае ніякага сэнсу.

Фільм пра народнага героя стаў для аўтараў перш за ўсё фільмам пра Чалавека, яго пакуты і мужнасць. Выдатна праведзена акцёрам сцэна парламенцёрскіх перагавораў з гітлераўскім афіцэрам. Яна выразна знята аператарам, як, дарэчы, і многія іншыя эпізоды фільма (выступленне Міная на партызанскім мітынгу, прарыў партызан праз балоты з акружэння пад пякельным агнём праціўніка). Аператар І. Рамішэўскі здолеў памастацку выразна раскрыць душэўны стан героя ў шэрагу буйнапланавых партрэтаў і разам з тым даць экспрэсіўныя замалёўкі беларускай прыроды, якая то быццам дапамагае партызанам, хаваючы іх у нетрах пушчаў, то падкрэслівае мяккі лірычны настрой героя (як у сцэне, дзе Мінай пазірае праз бінокль за сваімі дзецьмі, што гуляюць на ўскраіне вёскі). Музыка Ул. Чараднічэнкі арганічна ўпля таецца ў развіццё драматычнага дзеяння, у ёй выразна гучаць лірычная тэма дзяцінства і мужная —барацьбы.

Пры ўсім тым, што ўжо гаварылася пра вобраз Міная, хацелася б ўсё ж бачыць яго больш шматгранным. Найбольш падрабязна распрацавана ў сцэнарыі тэма адносін Міная да сям'і. А вось адносіны партызанскага важака да сваіх баявых сяброў усё ж, нягледзячы на асобныя ўдалыя сцэны, паказаны даволі павярхоўна. Схематычнымі выглядаюць вобразы кіраўнікоў партызанскага падполля. Толькі эскізна намечаны характары нават бліжэйшых паплечнікаў Міная —Патапава (Б. Уладамірскі), Бірылы (В. Тарасаў), Ніны (Л. Румянцава) і іншых.

Між тым, нават эпізадычны персанаж можа быць абмаляваны аўтарам настолькі выразна, што глядач уявіць і біяграфію героя, і яго характар (успомнім хаця б барадатага мужыка ў выкананні Б. Чыркова,—які дапытваўся ў Чапаева, за каго ён: за бальшавікоў ці за камуністаў,—у фільме «Чапаеў»). Такой лаканічнай вобразнай характарыстыкі нестае многім героям «Бацькі».

Пры ўсіх асобных праліках фільм «Бацька» прываблівае моцным характарам галоўнага героя, народнага важака. Карціна сведчыць, што для «Беларусьфільма» партызанская тэма яшчэ далёка не вычарпаная.

**Вольга НЯЧАЙ.**

---

як 350 метраў экспазіцыйнай плошчы, хоць год назад было ў два разы менш, а яе зноў мала.

Дзе ж крыніцы, магчымасці для ўзбагачэння музея каштоўнымі экспанатамі? Адкажу на гэта так: у рабоце з краязнаўчым актывам, у калектыўным пошуку. На жаль, большасць музеяў рэспублікі такога актыву не мае, у тым ліку і вядучыя. І разам з тым яшчэ ніколі ніхто на нарадзе работнікаў музеяў не ўзнімаў пытання аб краязнаўстве, аб рабоце з краязнаўчым актывам, менавіта з краязнаўчым, а не толькі з ветэранамі вайны і працы або школьнікамі. Дзіўна, што краязнаўчыя музеі рэспублікі ніколі шырока не абмяркоўвалі пытання аб краязнаўстве і краязнаўчым актыве.

Цяпер музеі рэспублікі рыхтуюцца адзначыць 50-годдзе СССР. У экспазіцыях, што мы развернем, вельмі важна падаць матэрыял так, каб відаць была векавечная дружба народаў СССР. І яшчэ адна дата наперадзе — 50-годдзе піянерыі. Хіба ж не цікава цяпер устанавіць, хто былі нашы першыя піянеры і піянерважатыя, дзе жывуць іх таварышы па працы і баях? Яны могуць многае расказаць, растлумачыць, могуць прыслаць цікавыя рэчы, дакументы, успаміны.

Закрануўшы гэтую тэму, я думаю пра вопыт такой работы з актывам, які склаўся ў нашым раённым музеі. Думаю пра тых, хто трымае з намі самыя цесныя сувязі, вядзе перапіску, дапамагае парадамі, пошукамі, успамінамі. Сярод такіх нашых актывістаў — і маршал, і славуты пісьменнік, і гісторык, і бывалы чэкіст-разведчык, і кампазітар, і калгасны пастух, і рабочы паравознага дэпо, і настаўнік, і буйны партыйны работнік. У нашым актыве і школьнікі, і сівыя ветэраны. А як дапамагаюць рэдакцыі газет, часопісаў, радыё і тэлебачанне, кінастудыі.

Нядаўна мы даведаліся, што ў Маскве жыве вядомы мастак, аўтар цудоўных ілюстрацый да твораў многіх пісьменнікаў, чалавек, удастоены за гэтыя работы медаляў на міжнародных і саюзных кніжных выстаўках — Яўген Ісакавіч Коган, і што мастак з такім імем і прозвішчам ішоў у перадавых часцях Савецкай Арміі, якія вызвалялі нашу Магілёўшчыну. Малюнкі гэтага мастака, у 1943 годзе апублікаваныя ў газеце 50-й арміі «Разгромим врага», мы даўно экспануем — франтавікі з хваляваннем глядзяць на іх, успамінаюць былое.

І вось мы задумаліся: а што, калі мастак і аўтар франтавых замалёвак — адна і тая ж асоба. Былі ж у нас раней такія адкрыцці.

Пісьмо пайшло ў Маскву. Адказ прыйшоў хутка. Яўген Коган пісаў, што ён сапраўды быў у 50-й арміі, рабіў замалёўкі ў нашым краі, у Магілёве і Мінску.

Сумненняў, што гэта той франтавы мастак, якога шукалі, не засталося. Але Яўген Ісакавіч прасіў мяне растлумачыць: трэба гэта ці не—экспанаваць у Крычаўскім раённым музеі яго работы. Ён аказаўся надзвычай сціплым чалавекам. І зноў — перапіска. Я быў перакананы, што чалавек, які вызваляў наш край, чыя творчасць звязана з нашым агульным лёсам — цікавы для нашых землякоў, бо ў яго жыцці і творчасці ваеннага часу адбілася наша жыццё.

Прайшло не шмат дзён, і ў музей прыйшоў пакет з замалёўкамі. У пакеце былі і тыя замалёўкі, што рабіліся ў час вайны на Магілёўшчыне, у самім Магілёве. Былі там і газетныя адбіткі франтавых малюнкаў.

Больш таго, мы дазналіся, што Коган быў тым легендарным мастаком, які з першымі савецкімі аўтаматчыкамі прабраўся ў Ясную Паляну, яшчэ акупіраваную фашыстамі, і ў складзе 50-й арміі вызваляў яе. Ён зрабіў тады замалёўкі разбуранага дома Льва Мікалаевіча Талстога ў Яснай Паляне. Малюнкі абышлі многія газеты. Пачаўшы перапіску з мастаком, я думаў: а ці дашле ён хоць адну з тых яснапалянскіх замалёвак? 50-я армія, якая вызваляла Ясную Паляну, першай ўвайшла і ў акупіраваную фашыстамі Беларусь, вызваляла Крычаў.

Якая ж то была радасць, калі мы атрымалі ад мастака ўспаміны пра тыя дні, нават некалькі адбіткаў і замалёвак тых дзён, зробленых у Яснай Паляне. Безумоўна, любому наведвальніку нашага музея цікавы гэты эпізод. Тым больш, што Вярхоўнае камандаванне прасіла генерала І. В. Болдзіна, які камандаваў 50-й арміяй, выратаваць Ясную Паляну як культурную каштоўнасць сусветнага значэння. Увесь свет сачыў у тыя дні за баямі ў Яснай Паляне, чалавецтва спадзявалася, што мясціны Талстога будуць выратаваны ад разбурэнняў. Праўда, там многае было разбурана, але савецкія аўтаматчыкі зрабілі ўсё магчымае, каб зменшыць гэтыя разбурэнні.

І вось — малюнкі. Яны хвалююча расказваюць пра тыя дні.

Наша актыўная перапіска з Яўгенам Ісакавічам дала плён. Мастак стаў другам нашага музея, яго пастаянным карэспандэнтам. Ён так і напісаў нам, што ўжо не пакіне музей у Крычаве без сваёй увагі, тым больш, што Крычаў — адзін з тых гарадоў, у вызваленні якіх ад фашыстаў ён удзельнічаў. Гэта высакародна. Такімі сябрамі наш музей даражыць... Яны — наш лепшы актыў, наша надзея на яшчэ лепшую работу музея.

Я пачаў гэты артыкул з праблемнага для музея пытання — аб яго актыве, а закончыў гісторыяй перапіскі музея з адным з нашых актыўных карэспандэнтаў. Ці ёсць у гэтым пераходзе якая логіка? Ёсць. І не выпадковая. У гісторыі гэтай перапіскі, у новых экспанатах — яшчэ адзін вынік нашых пошукаў.

Пошук у музеі...

Актыў музея...

Не, гэта не проста словы. У іх — жыццё музея, яго вартасць, яго плён.

**М. МЕЛЬНІКАЎ,**
дырэктар Крычаўскага краязнаўчага музея.

---

*Зайтра ў сталіцы нашай рэспублікі адкрываецца Усесаюзны тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі. На свята «кніжчыных імянін» мы чакаем дарагіх гасцей — дзіцячых пісьменнікаў з братніх рэспублік. Прапануем чытачам вершы ўкраінскага паэта Багдана Чалага і латышскага паэта Валдзіса Лукса ў перакладзе Эдзі Агняцвет.*

Багдан ЧАЛЫ

## БАЛАДА ПРА ЖЫВОГА МАНЕКЕНА

У Лондане на вуліцы шырокай
ёсць вопраткі дзіцячай
магазін.
Як несапраўдны,
хлопчык сінявокі
стаіць перад прахожымі адзін.

Стаіць ён у вітрыне нерухома
і толькі свеціць позіркам жывым.
Ён — манекен.
Для продажу, вядома,
і гарнітур, і паліто на ім.

А крамнік
з-за прылаўка ўсё цікуе:
яго тавар — высокае цаны.
І людзі абмінаюць краму тую,
І не купляюць вопраткі яны.

І трапілася —
вуліцаю той
сэр Лэскі
з сынам ехаў
на пацеху.
(Не ходзяць багацеі пехатой).

З нуды навокал глянуў
панскі сын:
за шклом аўтамабіля —
магазін.
Да бацькі ён:
— Купі мне паліто! —
І на хаду
спынілася аўто.
З машыны выйшлі
І зірнулі ўбок
сэр Лэскі
і насуплены сынок.

Вітрына.
Кажа бацька:
— Бачыш, Бэн,
якраз твайго ўзросту
манекен.
Калі ты хочаш, мой сыночак,
з плячэй яго
мы здымем палітончык!

Падумаў Бэн...
Спытаў:
— Скажы ты мне,
хлапчына гэты —
пудзіла ці не!
Хацеў бы я ўшчыкнуць яго за нос!—
І да вітрыны Бэн ілбом прырос.

Зиянацку
Бэн падскочыў,
смеючыся:
— Ён лыпае вачыма,
падзівіся! —
І праўда:
манекен пачырванеў.
Палае
у вачах хлапечых
гнеў.
Пагрозліва махае на панка
худая
манекенава
рука.

— Не смейся, злоснік!
(І здзівіўся Бэн) —
я хлопчык,
несапраўдны манекен!
Фашыст забіў усю маю сям'ю.
На хлеб тут зарабляючы,
стаю!

Штось хлопчык той
сказаць яшчэ хацеў,
ды крамнік,
быццам ястраб, наляцеў.
Пачаў малога біць,
аж сцены загулі...
Сэр Лэскі сыну загадаў:
— Пайшлі!

Увечары па вуліцы шырокай
ідзе дзіця,
галодны сын вайны...
Работу страціў хлопчык сінявокі,
не паліто на ім,
а рызманы.

І грукаюць па бруку чаравікі.
Куды ж ісці, бяздомнаму, уначы!
І шэпча хлопчык:
— Выраcту вялікі —
Я вас паб'ю,
паны і панічы!

Валдзіс ЛУКС

## А ЧАМУ?

«А чаму не брэша котка!
А чаму кладзёмся спаць!
А чаму са мной чачотку
Ложак не пайшоў скакаць!
А навошта ўзімку — санкі,
Дзірка ў белым абаранку!
А чаму!..»

Ах, назолы вы якія,
Два браты мае малыя!
Хоць крычы ты, не крычы,
Ад «чамучак» не ўцячы!

«А чаму ваду ў спякоту
піць ахвота!
А чаму!.. »
Ты не злуйся!

Першым чынам,
Растлумач усё малым.
Справы добрыя, магчыма,
Давядзецца здзейсніць ім!

І пасля няёмка будзе,
Што не ты
цікаўным людзям
Адказаў на ўсе «чаму!»

Можа, гэтыя «чамучкі»
Болей здолеюць, чым ты.
Скажуць гэтыя «чамучкі»,
Уздымаючы палацы
і дзівосныя масты:
«Не крыўдуем мы, павер,
Самі ведаем цяпер,
Ад чаго,
адкуль,
чаму!»

Іван ЧЫГРЫНАЎ

# ПАСЛЯ СТРЭЛУ






**Мне ўжо даводзілася гаварыць у газеце пра свой наступны задуманы раман. Ён працягвае тую ж тэму, што і «Плач перапёлкі», словам з таго ж цыклу. Друкавацца ён будзе, вядома, таксама пад новай назвай. Але з назвамі для аўтараў, мусіць, заўсёды, цяжкасць. І тым не менш я не ўтою яе — «Апраўданне крыві».**

**Прапаную ўвазе чытачоў урывак з гэтага рамана.**

— Ну вось, Зазыба, верамейкаўцы твае нарэшце паставілі скрозь віткі на полі, а скора ж разаруць, пабачыш, нанаве межы, і тады зноў у Верамейках будзе, як і даўней — кожны сваім дваром стане жыць, кожны па сабе будзе зноў. Словам, як і не было вашых дзесяці гадоў шчаслівага і заможнага жыцця!..

Так гаварыў Зазыбу — і як не ў самае вуха — Брава-Жыватоўскі, ідучы поплеч з ім да крыніцы, дзе канаў у крывавай пене на тупкай лугавой сцежцы застрэлены Рахімам лось. Чубар са свае сховы акурат убачыў тады паўзверх купчастага ядлоўцу: сапраўды, гэтыя два не спяшаліся бегчы, каб зірнуць, што раптам здарылася пасярод сухадолу; яны не паддаліся агульнаму настрою верамейкаўцаў, якія адразу пасля Рахімавага стрэлу сыпанулі з Паддубішча ўніз па схіле.— Брава-Жыватоўскі з Зазыбам ішлі да крыніцы, што завецца нага за нагу, ажно здалёк нецярпліваму Чубару здавалася, што нават наўпрасткі, пасля таго ўжо, як Брава-Жыватоўскі з Зазыбам збочылі з гуцянскай дарогі, яны ці не знарок падаўжаюць сабе шлях, лішне старанна абмінаючы тыя папорканыя мясціны, дзе можна па нязграбнасці альбо спатыкнуцца аб сухую, пабітую мурашкамі купіну, альбо трапіць нагой у прыхаваную палявою травой дажджавую выбоіну ці быдлячы капыт. І калі Зазыбава маруднасць Чубару была вядома — у гэтай непаспешлівасці была сталая паважнасць, дарэчы, якая заўсёды чамусьці злавала Чубара, але якая ўсё ж адпавядала і паводзінам таго на кожны дзень, і рухам, і, нарэшце, што галоўнае, усёй Зазыбавай сутнасці, як чалавека, то Брава-Жыватоўскага бачыць гэткім жа было нязвычна, і, можа, перш за ўсё таму, што не было ніякага стасунку ў самой ягонай прысутнасці побач з Зазыбам, а тым больш ва ўзаемнасці, якая быццам ужо ўсталявалася паміж іх; ва ўсякім разе, у Чубаровай душы выгляд гэтай блізкасці раптам стварыў непрыемнае ўражанне, якое, у сваю чаргу, выклікала раўнівае і помслівае пачуццё.

— Вядома, ён і калгас няроўны быў для ўсіх,— не пераставаў гаварыць Брава-Жыватоўскі Зазыбу, — як і ў жыцці што: аднаму бацька — другому той жа самы вотчым ужо, аднаму матка — другому мачыха. Гэта калі толькі пачыналі справу, дык на ўсю глотку крычалі: настае час усеагульнаму дабрабыту ў мужыцкім раі.

Гаварыў Брава-Жыватоўскі гэта голасам чалавека, які выпрабоўваў спадарожніка, быццам жадаючы выклікаць таго на новую шчырасць, каб пасля займець належнае месца ў душы. Дзіва, але ў Зазыбы ягоная недарэчная балбатня зусім не нараджала ўнутранага пярэчання, можа нават з тае прычыны, што горыч, якая была на душы сёння ад самага ранія, змянілася за час дзяльбы калгаснага палетка стомленай абыякавасцю ад гарачага сонца і тлуму людскога, а яшчэ, відаць, і таму, што Зазыба разумеў — абвяргаць домыслы Брава-Жыватоўскага адзін на адзін, таксама як і пераконваць яго ў адваротным было справай дарэмнай, раз ужо ўсё гэта вынашана ў думках і складзена ў пэўную сістэму. Яму толькі як бы дзіўна трохі было, што ягоны аднавясковец, хоць і прышлы, але ж аднавясковец, гэтак складна ўмее гаварыць; здавалася, Брава-Жыватоўскаму ніякай цяжкасці не каштавала вольна абыходзіцца з такімі моўнымі зваротамі і такімі разумовымі паняццямі, якія Зазыба дагэтуль мог вычытаць адно ў тайных кніжках альбо пачуць на не менш тайных сходках; калі ж улічыць, што нічога падобнага Зазыба не чытаў і не чуў, для яго ўсё гэта стала новым, упершыню сказаным цяпер Брава-Жыватоўскім, дык і зусім льга было пазайздросціць мужыку: няўжо хапала на абгрунтаванне такіх высноў той вяскова-гарадской адукацыі, якую верамейкаўскі прымак набыў некалі ў вёсцы, а затым ў Баранавічах? Сваёй парадаксальнай гаворкай ён здзівіў і насцярожыў Зазыбу яшчэ ўчора, калі яны вярталіся на адным возе з Бабінавіч, тым больш нечаканай, нават не так нечаканай, як незвычайнай сваім зместам была яна сёння. Але яна — мы ўжо гэта ведаем, — не выклікала ў Зазыбы належнага пярэчання. Яна толькі вельмі гняла яго, лёгшы ў сярэдзіне, пад самае сэрца, нейкім шчымлівым і неадольным цяжарам, акурат як здараецца перад небяспечнай хваробай, пра якую чалавек яшчэ не здагадваецца,. але якая ўжо моцна патурбавала арганізм.

— Вядома, у цябе на душы, Зазыба, кошкі шкрабаюць,— чоўп сабе Брава-Жыватоўскі, патрапляючы з Зазыбам нага ў нагу і штораз, мусіць, проста дзеля забавы, смаргаючы сціснутымі пальцамі правай рукі — вялікім і ўказальным — па скураным, з аблезлаю фарбай рамяні бельгійскай вінтоўкі, якую ён нёс на плячы, кароткім ствалом уніз.— Як жа, пачалі раптам разбураць тое, што з тваёй дапамогай, вольнай ці міжвольнай, рабілася як назаўсёды. Нездарма ж зямлю нават з дзяржаўнага карыстання не пашкадавалі перадаць на вечнае калгасам. А тут вось гэты немец! Як кажуць, чорт задумаў адно, а д'ябал узяў ды збунтаваў усё, нават невядома, з якой карты хадзіць, а каторую на казырную трымаць.— Брава-Жыватоўскі ўсміхнуўся — у яго маналогу ўсё выразней адчуваліся здзеклівыя ноткі, і голас яго паступова рабіўся злосны і нецярплівы, няйначай, паліцэйскага раздражняла Зазыбава адмоўчванне, калі нават не абыякавасць таго; нарэшце, Брава-Жыватоўскі ўспомніў, усёроўна як на ноч гледзячы, «чорта і д'ябла», якія пабунтавалі некаму карты, тады Зазыба раптам ачомаўся, быццам і па праўдзе толькі цяпер да канца сталі зразумелыя разважанні яго спадарожніка, задзірліва глянуў на верамейкаўскага прымака — нядаўна яшчэ асцярожнага і руплівага селяніна-калгасніка, а цяпер паліцэйскага-філосафа, і не менш задзірліва сказаў:

— Не кажы, Антон! — Яно б і грэх было Зазыбу не ўчапіцца за апошнія словы Брава-Жыватоўскага, сэнс якіх прагучаў няпэўна і нават дваяка.— Адмысловы гулёк заўсёды ведае, з якой карты калі хадзіць. Яго ні чорт, ні д'ябал не зблытае. Ты ж, гэта, мусіць ні разу і не згуляў з нашымі мужыкамі ў карты?

Як у вялікім здзіўленні Брава-Жыватоўскі павярнуў галаву да Зазыбы, дапытліва прыжмурыўшы вочы, ажно стала відаць, як абапал іх пабралася дробнымі зморшчынамі скура.

— Не,— тым не менш проста і лёгка адказаў ён, і яшчэ больш проста і лёгка спытаў: — А што? — мусіць, не надта здагадваючыся, чаму раптам Зазыбу, які маўчаў столькі часу і не адважваўся, а можа і не хацеў пярэчыць яму, зацікавіла такая няважная акалічнасць.

— А тое, што яны б цябе пэўна ўжо навучылі, з якой карты калі хадзіць, а якую на казырную трымаць,— адказаў Зазыба і таксама дапытліва паглядзеў на паліцэйскага.

Той адчуў скрыты сэнс Зазыбавай гаворкі, на момант сумеўся, мусіць, шкадуючы, што гэтак неасцярожна падставіў сябе.

— Пражывём як-небудзь і без іхняй навукі,— сказаў Брава-Жыватоўскі і перасмыкнуў ад прыкрасці левай шчакой.

— Ну, ну...

Тым часам вакол забітага лася варушыўся натоўп — усе, хто памеў цікавасць паглядзець, якога звера застрэліў татарын. Зазыбу відаць было, як нечага ажно ныраў у натоўп і тут жа вынырваў адтуль, быццам сапраўды дастаў дна Мікіта Драніца, а руханкавод Падзерын ужо даводзіў штосьці «паляўнічаму», тыцкаючы ў грудзі рукой; трохі зводдаль ад верамейкаўцаў стаяў Сілка Хрупчык — няйначай, гэтаму дужа цікава было, як на лузе падлеткі ганяліся за палахлівым ласянём, быццам ён, як спрактыкаваны хіжак, пільнаваў той хвіліны, калі і асірацелае ласяня, і яго мучыцелі выб'юцца з сіл, каб потым завалодаць ахвярай самому; нават Кузьма Прыбыткоў, з дубцом і на нядужых нагах-раскірэках, і той паспеў неяк апынуцца разам з іншымі верамейкаўцамі на сухадоле, мусіць, таксама прытупаў туды, калі не прыджгаў, падахвочаны цікавасцю. А ўсё гэта адбывалася непадалёку, можа крокаў за семдзесят ад крыніцы, драўляная кадушка якое вытыркалася над зямлёй сваім краем гэтак высока, што яе відаць было простым вокам яшчэ ці не з гуцянскай дарогі. Вакол Верамеек наогул багата крыніц — адны выкапаны гаспадарлівымі людзьмі, якім выпала дзе працаваць працяглы час, адчуваючы смагу, другія самі выструменілі на паверхню аднекуль з сярэдзіны зямлі. Ва ўсякім разе, куды б ні ішоў з Верамеек у не лішне далёкую дарогу чалавек, ён не браў з сабою біклажку, бо заўсёды меў магчымасць напіцца з блізкай крыніцы. Гэту крыніцу выкапаў захожы салдат, яшчэ калі ў войску была рэкрутчына. Салдат трапіў у Верамейкі, ідучы па дарозе з Унечы — вяртаўся з царскай службы ці то ў Маластоўку, якая была трыццаць вёрст адсюль, ці то нават у Латоку. Пражыў ён у Верамейках... Але не. Якраз вось гэтага ніхто і не захаваў у галаве. Вядома толькі, што ўпадабаў салдат сабе ў вёсцы кабету, чужую ўдаву, наняўся касіць ёй пожню, ну, і як бывае звычайна ў лагодзе ды згодзе, прыжыў малое. Але памяць аб сабе пакінуў у Верамейках не тым, а гэтай крыніцай. Дужа прыдалася яна верамейкаўцам, ажно пачалі з тае пары клапаціцца, каб не звёўся кволы струменьчык, вада ад якога была заўсёды халодная і смачная. Былі таксама спробы зрабіць крыніцу святой. Адзін год нават крыж ставілі побач мужыкі. Але нехта адгаварыў — маўляў, салдат, які знайшоў гэтую ваду, быў чалавек грэшны, дык навошта працу яго рукператвараць у святую справу? Крыж той пасля гэтага занеслі назад у вёску, а крыніцу неўзабаве раскапалі шырэй і ўзялі ў дубовую кадушку, каб было яе па доўгія гады. Такім чынам, крыніца стала падобная на звычайную студню, з якой льга было ўранні чэрпаць вёдрамі ваду ўсім вясковым канцам. Але з вёдрамі сюды верамейкаўцы не хадзілі — не так блізка. З гэтай крыніцы пілі ваду тады, як касілі гарачым летам сухадол. Другім жа часам, крадком ад людзей, карысталіся ёй насельнікі недалёкага лесу. Сёння вось наталіць смагу ішлі гэтыя ласі... Нарэшце Зазыба адвёў вочы трохі ўбок ад вірлівага натоўпу, спыніў позірк ужо на самой крыніцы і прыгадаў нечага, як Чубар загадаў пазалетась, каб калгаснікі пачысцілі ў ёй дно. Яго абурыла, што крыніца заплыла пяском, акурат па самае дупельца, прасвідраванае для сцёку лішняй вады, да таго ж, знутры сценкі кадушкі пабраліся травой-ліпучкай, накшталт водарасцей ці нават звычайнай ціны, дзе хаваліся жабы-жарлянкі. Адным словам, у наяўнасці была, на яго думку, брыдкая безгаспадарлівасць, якая пэўным чынам характарызавала верамейкаўцаў, самае меншае, як дужа неахайных людзей, бо дзе ж гэта яшчэ дадуць, каб зрабіўся брудным калодзеж, і новы старшыня калгаса не прамінуў тыцнуць зазыбавых аднавяскоўцаў тварам у гразь. Як кажуць, сваволя горай няволі. Пачалі мужчыны раскопваць крыніцу, хоць і ведалі добра, што гэта небяспечна ёй: досыць няўмела патрывожыць верхні пласт намытага знізу пяску, як яна раптам пачынае чэзнуць, бо некуды прападае той пульсуючы ключ, які гоніць з глыбіні сцюдзёны струмень, і тады колькі ні шукай яго, калупаючы грунт рыдлёўкай, усё дарэмна, аж пакуль сам, праз багата часу, не выб'ецца зноў на паверхню. Гэтак здаралася з крыніцай двойчы — першы раз, калі стаўлялі дубовую кадушку, тады яна ажно высахла на доўгае лета, толькі ўвосень неспадзявана напоўнілася вадою, спярша верамейкаўцам нават падумалася, што гэта наліло яе дажджамі; другі раз — пасля таго, як мужчыны паспрабавалі пачысціць крыніцу,— кадушка заставалася без вады яшчэ надаўжэй, здаецца, ці не да наступнай вясны. Пазалетась таксама верамейкаўцам давялося насіць біклажкі з вадою сюды і ў касавіцу, і ў жніво. Мужыкі, вядома, пацвельваліся — і з новага, ды вельмі прыткага старшыні, і з саміх сябе, а верамейкаўскія бабы клялі, выціраючы пот, тых жа мужыкоў, што не адгаварылі Чубара...

Адлегласць да крыніцы з кожным крокам змяншалася.

Зазыбу з Брава-Жыватоўскім заставалася адно абмінуць невялічкую балацявіну, акурат сажалку ці звычайную копанку, каб трапіць на сцежку і па ёй ужо датупаць да вяскоўцаў, якія стоўпіліся вакол сахатага.

Здавалася б, нізкае барвовае сонца (яно ўжо ледзь не кацілася па правым схіле верамейкаўскага кургана — бліжэй ды бліжэй к захаду), што высвечвала сухадол па ўсёй яго няроўнай, бы здзёртая зверава скура, шырыні, павінна было пэўным чынам пафарбаваць і цёмна-зялёную атаву, якая не паспела дарасці да другога ўкосу, прынамсі, у самы звычайны, з надвячэрняй празалоцццю колер, але наперадзе, якраз у працягу паміж крыніцай і лесам, сухадол быў акурат пасярэбраны, быццам там ужо выпала на ноч раса, ці, наадварот, аднекуль выпаўз рэдкі, нясмелы туман, які цяпер, баючыся прыўзняцца і рассеяцца ў паветры, з усяе сілы чапляўся за вострыя, як ў лясным змяёўніку, макаўкі кволай атавы.

Аглядаючы знаёмы краявід, Зазыба раптам адчуў шчымлівы неспакой у душы, які быў пакуль незразумелы нават самому — можа, той з'явіўся

ад замілаванасці да ўсяго ўбачанага, што спярша зусім не прыкметна, бы ластаўчаным крылом, страпянула яму грудзі, а тады падступіла да сэрца нейкай амаль беспрычыннай малінавай журбой.

Перад тым, як узысці нарэшце на торную сцежку, Брава-Жыватоўскі спахапіўся, што не паспее сказаць усяго, і зноў пачаў гаварыць, але нават голасам даваў зразумець, што нядаўняга Зазыбавага намёку сапраўды не прымае і нічагусенькі не баіцца.

— Я разумею, ты злуешся, што я гавару гэтак,— бубніў ён.— Можаш не пярэчыць, усёроўна злуеш. У цябе сёння сапраўды кошкі на душы шкрабаюць — калгас рушыш. Але ты думаеш, што ва ўсіх таксама гэтыя твае кошкі сядзяць? Памыляешся, Зазыба. У мяне ж вочы ёсць — рады верамейкаўцы, што назад бяруць усё. Здавалася б, пажылі ў раі, а вось жа зноў у пекла спяшаюцца. Не глядзі, што Вяршкоў ці другі, хто ва ўсім табе патрапляюць, робяць выгляд, быццам аб адным з табою дбаюць. У іх у галаве сваё, Зазыба. Яны сёння, як на тым вяселлі, аднымі вачамі на жаніха глядзяць, а другімі на нявесту, адны словы табе кажуць, а другія пры сабе трымаюць. Пра гэта паведала б табе нават зямля, каб гаварыць умела. О, колькі яна сённяшні дзень пабачыла радасных вачэй! Вунь у баб, што схіліўшыся, жнуць палосы, разумееш, зноў свае палосы,— дык якія ў іх вочы? Ты б пацікавіўся ды глянуў. А зямля ўсё бачыць. Гэта толькі мужыкі і бабы не хочуць перад табою радасць паказаць. Можа, шкадуюць нават з павагі, а можа гэтак хітруюць. Праўду ўчора ты сказаў на праўленні...

— Адкуль табе ведама, што я гаварыў на праўленні? — агрызнуўся Зазыба, нібыта яму і сапраўды няўцям было, што паліцэйскі яшчэ тады ж паспеў пра ўсё выведаць у Мікіты Драніцы.

— Каб мне ды не дазнацца цяпер, што ў Верамейках робіцца?

— Хіба што!

Гэтае зларадпае Зазыбава «хіба што» неспадзявана збянтэжыла паліцэйскага. Мусіць, каб не выдаць сваёй збянтэжанасці, ён ад ніякаватасці нагнуўся і на хаду, амаль з-пад нагі, пахапіў плямісты, зусім падобны на птушынае яйка, дзіч, адкінуў прэч, нібыта невялічкі камень стаў перашкодай у яго на шляху.

Зазыба адчуў спадарожнікаву збянтэжанасць, пагардліва ўсміхнуўся. Здавалася, пасля гэтага Брава-Жыватоўскі альбо зусім пачне злаваць на Зазыбу, альбо перастане лезці са сваёй гаворкай у душу. Але дарэмна. Ён зноў перасмыкнуў ад прыкрасці шчакой, выціраючы тым часам аб штаніну руку, якой браўся за дзіч, хоць на ім ці было што, апрача сухога пяску, а тады пачаў:

— Помніш, ты грозіўся мне, як ехалі з мястэчка, маўляў, сам па сваёй ахвоце лезу ў пятлю? А ты вось? Думаеш па табе асіна ўжо наперад не плача, раз такія пратаколы асмельваешся пісаць?

— Значыць, абодвум нам пятлі не мінаваць.

— А гэта яшчэ як выйдзе. Нездарма ж кажуць, бабка на двох варажыла.

— На картах?

— А што?

— А тое, што дрэнны ты гулёк на картах.

— Ды ўжо як-небудзь.

— Ну, ну...

Брава-Жыватоўскі таксама, быццам у адпомсту, пагардліва ўсміхнуўся:

— Яшчэ пабачым, што ты адкажаш Гуфельду, чаму распусціў калгас?

— Якому Гуфельду?

— Каменданту.

— А-а-а...

— Я ж казаў табе не чапаць.

— Ці мала што можна казаць. Распараджэнне ж я ад каменданта твайго не палучаў.

— Затое я табе гаварыў.

— Хіба што. Але ж можна і так — нічога ты мне не гаварыў.

— Значыць, адмаўляешся?

— А і адмаўляюся.

— Ну што ж, пабачым...

— Дык не адна ж мая ахвота была зрабіць гэтак з калгасам. Збіралася праўленне, на ім і рашалі. Так што...

Ужо далятала блізкія галасы ад натоўпу. А гэта значыць, што іхнюю гаворку мог пачуць хто-небудзь. Таму Брава-Жыватоўскі не стаў пярэчыць Зазыбу.

Мікіта Драніца, вядома, і тут не мог здрадзіць сваёй натуры, каб першаму не перастрэць верамейкаўскае начальства. Як толькі згледзеў блізка Брава-Жыватоўскага з Зазыбам, то выскачыў з натоўпу напярэймы.

— Гляньце вунь, як тэй таго, татарын аленя ўкокаў!

Мікіта, відаць, у захапленні быў, што Рахім гэтак спрытна застрэліў нябачаную дасюль у Забяседдзі рагастую жывёліну, але і губляўся, не ведаючы, каму з двох, Зазыбу ці Брава-Жыватоўскаму, аддаць перавагу, таму вочы яго, па-сабачы, вінавата блукалі паміж адным і другім і былі маленькія, мусіць, таксама з тае ж прычыны.

— Не аленя, а бытта лася,— паспяшаўся на дапамогу Мікіту Сілка Хрупчык, — бо ў аленя...

Але Зазыба не стаў слухаць Сілкавага ўдакладнення. Пакідаючы Брава-Жыватоўскага, які дапаў да Мікітавай гаворкі, ён хуценька прайшоў па жывым калідоры, што ўтварылі перад ім, якраз уздоўж сцежкі, верамейкаўскія мужыкі і бабы. Сапраўды, на сцежцы ляжаў нежывы лось. На момант Зазыба прыгадаў, як вазіў у Бабінавічы на Спасаў дзень па даручэнні сакратара райкома Маштакова і незнаёмага вайскоўца Марылю і як па дарозе, за Гарбатым мастком, прыкмеціў круглы, нябачаны дасюль у Забяседскм лесе памёт. «Значыць, гэта ласі завіталі да нас аднекуль»,— падумаў цяпер чамусьці зусім без жалю па забітым прышэльцы Зазыба і пільна, як і вымагала таго сапраўднае дзіва, агледзеў сахатага. Той ужо не падаваў ніякіх адзнак жыцця. Гарбаносая галава яго, у якую трапіла куля, бездапаможна ўткнулася шэрай пысай у сцежку , а з ноздраў тонкімі вяроўкамі сцякала, загусаючы, скрываўленая жыжка. Куды дакладна, у якое месца на

[Заканчэнне на стар. 14—15.]

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# ВЕЛІЗАРНЫ СВЕТ — У ЗЕРНЕЙКУ...

### ДА 70-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ П. ГАЎРЫЛЕНКІ

ЦЯПЕР яму споўнілася б 70. Але вось ужо 11 гадоў, як яго няма з намі.

Цікавы жывапісец і рысавальшчык, буйны грамадскі дзеяч, які шмат гадоў кіраваў Саюзам мастакоў Беларусі, Павел Нічыпаравіч Гаўрыленка ўсё сваё жыццё прысвяціў людзям.

У 20 гадоў камсамолец, у 21 — воін Чырвонай Арміі, у 25 — удзельнік II Усебеларускай мастацкай выстаўкі. Так пачыналася яго біяграфія.

А потым вучоба ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме ў М. Керзіна, В. Волкава, М. Эндэ. У 1930 годзе, пасля сканчэння тэхнікума, П. Гаўрыленка пераязджае ў Мінск. Тут яго выбіраюць адказным сакратаром рэвалюцыйнай арганізацыі мастакоў Беларусі. Паралельна з грамадскай работай ён піша многа карцін, пейзажаў партрэтаў.

На жаль, да нас не дайшлі такія яго творы тых гадоў, як «Брыгада за работай у калгасе», «Разгрузка элеватара», «Пуск завода», «На будаўніцтве», але некаторыя рэпрадукцыі, якія захаваліся, сведчаць, што на галоўнае месца ў творчасці П. Гаўрыленкі выходзіла новая для таго часу тэма — тэма сацыялістычнага будаўніцтва, тэма першых пяцігодак.

У дні першай Дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве (1940) звярнула на сябе ўвагу палатно П. Гаўрыленкі «Шклозавод», а на выстаўцы ў Мінску, прысвечанай 20-годдзю БССР, — «На калгасным таку», у якіх працягвалася лінія сюжэтных пошукаў, характэрная для яго ранніх работ.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, П. Гаўрыленка ідзе на фронт, але праз год урад рэспублікі адклікае мастака ў Маскву, дзе ён становіцца начальнікам аддзела выяўленчага мастацтва Упраўлення па справах мастацтва БССР.

Шмат сіл аддае ён таму, каб наладзіць сувязь з беларускімі мастакамі, якія знаходзяцца на франтах, у партызанскіх атрадах, у эвакуацыі. У сувязі з 25-годдзем БССР у Маскве была арганізавана мастацкая выстаўка твораў беларускага жывапісу, графікі, скульптуры. На ёй былі экспанаваны работы, прысланыя беларускімі мастакамі з многіх гарадоў Савецкага Саюза, з розных франтоў і партызанскіх атрадаў. У гэтым была вялікая заслуга П. Гаўрыленкі. Мастак працуе над жывапіснымі і графічнымі творамі, прысвечанымі гераічнай барацьбе савецкага народа з фашызмам. Так, у 1942 годзе ён стварыў эскіз карціны «Прарыў нямецкай абароны», у 1943 годзе — кампазіцыю «Вяртанне партызан з аперацыі», праз год паўтораную ў карціне «Партызаны на Палессі», шэраг партрэтаў народных мсціўцаў.

Глыбокае веданне характараў, жыцця і быту партызан вызначыла поспех такіх твораў П. Гаўрыленкі, як «Партызанскі аэрадром», «Пераправа», «Лістоўкі Палескага камітэта», «На прывале», «Суніцы», «Партызаны».

П. Гаўрыленка стварае шэраг карцін і кампазіцыйных малюнкаў, прысвечаных пасляваеннай Беларусі, серыю натурных эцюдаў, партрэтаў і нацюрмортаў, сярод якіх — «Шклозавод», «Збор яблык», «Малацьба», «Затока», «Вясна», «Возера Нарач».

У 50-я гады наступае творчая сталасць мастака. Тая паўната і канкрэтнасць вобразаў, да якой мастак імкнуўся яшчэ ў 30-я гады, атрымала ў новых яго творах ясную, прадуманую кампазіцыю, выразнасць каларыту, вялікую эмацыянальнасць пачуццяў. На Усесаюзнай выстаўцы, прысвечанай 40-годдзю Кастрычніка, экспанавалася яго карціна «Ідзе эшалон», з поспехам паказаная пазней у Румыніі. У гэтым творы шмат сонца, нястрымнай дзіцячай бадзёрасці. Поўны святла, радасці жыццесцвярджэння і сам жывапіс.

У карціне «Веснавая сяўба» чалавек, тэхніка і зямля звязаны разам. Свежая, узараная зямля займае амаль усю «прастору» палатна — своеасаблівая прыгажосць узаранага поля нараджае асацыятыўную думку аб тым, што людзі, якім даверана гэта зямля, прыгожыя, моцныя, мужныя, навекі зліты з ёй. Узаемасувязь гэта натуральная, яна абумоўлена задумай твора.

Наогул, пейзаж амаль ва ўсіх карцінах П. Гаўрыленкі становіцца неад'емнай часткай кампазіцыі і падчас нясе вялікую ідэйную нагрузку. Асабліва цікавая ў гэтых адносінах карціна «На будаўніцтве». Параўноўваючы эскіз карціны са скончанай работай, бачыш, як далёка адышоў аўтар ад пачатковай задумы, кампазіцыі. Аўтар імкнуўся расказаць нам пра рабочую моладзь, пра новы Мінск, пра людзей маладых, прыгожых, бадзёрых, якія яго абнаўляюць... Але закончыць карціну мастаку не давялося...

Эвалюцыя мастацтва П. Гаўрыленкі адзначана рэдкай паслядоўнасцю, абумоўленай пастаянствам мастацкіх прынцыпаў, прывязанасцей, стылістыкі. На вялікай юбілейнай выстаўцы, разгорнутай у залах Саюза мастакоў БССР, гэта адзінства адчуваецца з бясспрэчнай выразнасцю. Карціны, эцюды, накіды, з якіх найбольш раннія датаваны пачаткам 30-х гадоў, а апошнія — 1960 годам, пакідаюць адчуванне цэльнасці пошукаў. Яны нібыта акцэнтуюць унутраную сувязь усіх этапаў больш чым 30-гадовага творчага шляху.

У лепшых работах П. Гаўрыленкі пэндзаль востры, мяккі, лёгкі, сакавіты, здольны выклікаць да жыцця моцныя кантрасты або тонкія, ледзь улоўныя градацыі тона. У некаторых творах цэлае ствараецца нямногімі мазкамі і лініямі, у іншых мастак усю паверхню палатна фарбай пакрывае так, што след пэндзля растварaецца ў няспыннай тканіне танальных адносін. Увесь гэты гібкі тэхнічны апарат, паслухмяна ідучы за вокам мастака, дакладна перадае характарыстыку форм і паверхняў: калючыя масы соснаў, мяккія алеі ліп, шурпатую кару дрэў, дрымотныя затокі, акуратна складзеныя пірамідкі снапоў. У лепшых пейзажных эцюдах П. Гаўрыленкі, традыцыі якіх ідуць ад Шышкіна і Паленава, прыгажосць матыву падкрэсліваецца, на першы погляд, простай і нават як бы выпадковай, але, па сутнасці, прадуманай кампазіцыяй — іменна яна і надае напісанаму з натуры пейзажу характар цэласнага і завершанага твора.

Так, у сціплым, няхітрым матыве «Мокры луг» П. Гаўрыленку ўдаецца схапіць нешта нязмерна большае, чым характар самога кутка. У такіх работах, як «Лес», «Пейзаж з лодкай», «Стог», «Восень», «Красавік», праявілася даравaнае яму ўменне, аб якім выдатна сказаў Уільям Блейк: «у адным імгненні бачыць вечнасць, велізарны свет — у зернейку пяску...»

Шмат работ стварыў мастак. Яшчэ больш задумаў засталося неажыццёўленымі. Ён напісаў дзесяткі эцюдаў, імкнучыся паказаць імгненне пастаянна пераменлівай у сваім вечным руху прыроды, стварыў многа эскізаў і карцін аб Вялікай Айчыннай, аб сённяшняй вёсцы, аб будаўніцтве новага жыцця. Не заўсёды і не кожны эцюд або эскіз лёг потым у карціну — працэс гэты цяжкі і складаны, але менавіта ў іх заўсёды была непаўторная, своеасаблівая інтанацыя.

**Барыс КРЭПАК.**

# ГЕРОІ СУРОВАГА ЧАСУ

ПАЗАЎЧОРА ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР адкрылася выстаўка «Народна-вызваленчая барацьба ў выяўленчым мастацтве Югаславіі». Гэта не першае знаёмства беларускага гледача з мастацтвам мужнага і таленавітага народа.

У экспазіцыю ўваходзяць жывапіс, скульптура, графіка. Югаслаўскія мастакі адлюстроўваюць герояў суровага часу і велічна-трагічныя падзеі, у якіх гартаваўся дух барацьбітоў за свабоду роднага народа, за рашучую перамогу над фашысцкімі варварамі. Ідэі гуманізму і свабоды, высокі грамадзянскі пафас нясуць гэтыя высакародныя па змесце, часам вельмі няпростыя па форме творы.

Палымяным пратэстам супраць вайны як з'явы, што павінна быць знішчана ў адносінах паміж краінамі і народамі, творчасць югаслаўскіх мастакоў на тэмы мінулай вайны становіцца сугучнай нашаму часу.

На выстаўцы экспануюцца творы мастакоў, розных па напрамку творчых пошукаў. Суровы рэалізм іх творчасці перадае глыбокія пачуцці нянавісці да мілітарызму, глыбокія пачуцці захаплення перад воляю і мужнасцю звычайных людзей, якія ў часіну грозных выпрабаванняў для ўсяго народа ідуць у бой і перамагаюць.

Калі глядзіш карціну Мраза Франьо «Бежанцы ў полі» або графічны ліст Еліма Мілівой Грудзіча «Падпольная друкарня», палатно Хегедушыча Крсто «Дзеці камеры № 8» або скульптуры Аўгусцінчыча Антуна, нацюрморты Мілуновіча Міло «Пасля перамогі» і Коса Антона Гойміра, у якім зброя яшчэ, здаецца, захоўвае цяпло рук змагароў, — не можаш не хваляваццa ад той творчай настойлівасці, з якой югаслаўскія мастакі імкнуцца як найглыбей раскрыць душу народа ў барацьбе за сваю свабоду, ад той творчай настойлівасці, з якой яны аднаўляюць у сваіх творах самыя разнастайныя праявы гэтай барацьбы.

Людзі і сітуацыі, у якія яны трапляюць на вайне, пераломленыя праз прызму творчага ўяўлення мастакоў розных пакаленняў, сапраўды ўражваюць у гэтых работах. Мастакі ўсяляк пазбягаюць рознага роду знешне эфектных сітуацый, звязаных з тэмай вайны, такіх, якія быццам бы і даюць разнастайныя магчымасці для эфектных чыста пластычных ходаў, але як бы зацяняюць сутнасць будняў вайны. Так, менавіта будні вайны, суровы лёс чалавека на вайне, канцэнтрацыя яго ўнутраных, душэўных сіл — вось што перш за ўсё цікавіць удзельнікаў гэтай цікавай выстаўкі.

Яна вельмі няпростая для ўспрыняцця, гэтая складаная экспазіцыя. Але няпростая і тэма, якой яна прысвечана. Няпростыя тыя выпрабаванні, праз якія прайшоў народ, чыйму подзвігу прысвечаны паказаныя творы.

І няхай сабе яшчэ далёка не ўсё сказалі югаслаўскія мастакі на гэтую тэму. Няхай сабе яшчэ многае скажацца ў будучым. Але многае з таго, што ўжо сказана, знаходзіць на Беларусі ўдзячнага гледача. Беларусі-партызанцы блізкае тое, што перажыў у гады вайны югаслаўскі народ.

**Ул. БОЙКА.**

## ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

Споўнілася 50 гадоў пісьменніку-публіцысту, дырэктару Дома творчасці імя Я. Коласа Мікалаю Вінаграву. З гэтай нагоды юбіляра сардэчна прывітала праўленне Саюза пісьменнікаў БССР. У накіраваным яму віншавальным адрасе гаворыцца, у прыватнасці:

«З юнацкіх год звязалі Вы сваё жыццё з друкаваным словам. Скончылі факультэт журналістыкі Свярдлоўскага універсітэта і рэдактарскі факультэт Маскоўскай Ваенна - палітычнай акадэміі імя У. І. Леніна, працавалі ў цэнтральным органе Савецкай Арміі «Красной Звезде» і іншых вайсковых газетах. З-пад Вашага пяра выйшлі кнігі нарысаў «Сержанты», «Наш полк в боях за Родину», «Колхозный инженер», аповесці «Посланец партии» і «Обвинение», сцэнарыі некалькіх дакументальных фільмаў. Сын уральскага селяніна, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, падпалкоўнік запасу, член партбюро пісьменніцкай арганізацыі, Вы цяпер адначасова з літаратурнай і грамадскай дзейнасцю шмат сіл аддаяце рабоце на пасадзе дырэктара Дома творчасці пісьменнікаў імя Якуба Коласа. Жадаем Вам добрага здароўя, новых поспехаў, шчасця!»

Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання.



*Ні адна вечарынка ў вёсцы Думічы на Капыльшчыне не абыходзіцца без Антона Браніцэўскага.*

*Многія дзесяткі гадоў рукі ягоныя трымалі сякеру, узводзячы дамы. А яшчэ яны трымалі скрыпку, гармонік. Цяпер Антон Піліпавіч іграе на дудцы. і іграе так, што кожны заслухаецца...*

*Восемдзесят гадоў ходзіць Антон Браніцэўскі па роднай зямлі, слухае яе напевы, перадае іх людзям...*

У. ГУРЫНОВІЧ.




□ Баранавіцкі народны тэатр гарадскога дома культуры паставіў спектакль па п'есе Янкі Купалы «Прымакі». Рэжысёр-пастаноўшчык М. Пячонкіна. Спектакль прысвечан 90-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі.

Ул. МАКАРЭВІЧ.

□ У Маскве адкрылася 1 Усесаюзная выстаўка «Скульптура малых форм». На ёй прадстаўлена больш як 500 твораў. Тут экспануюцца статуэткі, настольныя партрэты, анімалістычная скульптура, дэкаратыўныя рэльефныя кампазіцыі, чаканка, медалі з рознага матэрыялу.

У выстаўцы ўдзельнічаюць беларускія майстры: М. Кандрацьеў з Мінска і М. Балюк з Гомеля.

Э. БРОЙТМАН.

□ 15-гадовы юбілей адзначыў нядаўна драматычны калектыў дзіцячага дома культуры Аршанскага ордэна Леніна льнокамбіната. За гэты час ён паставіў больш як 70 спектакляў, быў прызёрам абласных і рэспубліканскіх конкурсаў.

П. САНЦЭВІЧ.




Алег ЛОЙКА



# ЛЯМЕНТАЦЫІ КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

### ЗАМЕСТ УСТУПУ

...И узрим мысленно...
Кірыла ТУРАЎС

Толькі думкай магу і ўявіць,
Што было тут, на гэтай гары.
Хай баліць, ды не буду ныць:
Што запалена — перагарыць.

Ёсць пачатак, і ёсць канец...
Ды чаму так бязлітасна час
Насыпаў чым хутчэй капец
Не за морам, а тут, у нас!!

Уяўляць толькі думкай... Што ж...
Ды ці кожны можа ўявіць
І захоча!..
З сэрца нож,
Хоць і вымі, сэрцу — не жыць.

Яснавідцы, як мала вас!
Запрашайце ж бачыць сляпых:
Не зруйнуе ніякі час
Зруйнаванае і з-за іх!..

Хай нічога на гэтай гары,
Хай нястрыманы час плыве,—
Толькі дрэва датла гарыць,
Што ва ўяве жыве, жыве!..

### ЛЯМЕНТАЦЫЯ І

Сладко бо медвеный сот и добро сахар, обоего же добрѣе книгий разум...
Кірыла ТУРАЎСКІ.

Дарылі Вашчаты[1] мёд,
Купцы везлі з грэкаў цукар.
А я ўжо каторы год
У вежы прымаю мукі.

Сеўшы на хлеб-ваду,
Сляплюся па-над уставам,
З сабою самім вяду
Размовы пра дух і яву.

Сонца стае, як воск,
Кане за рэчкай яздою.
Разгарачаны мозг
Пазнае, што святое,

Цень ад княжых харом
Дыхае, як марозам.
Кніга мне, як паром,
Які перавозіць розум.

Выйду адгэтуль, каб
Славіць вясны абуджэнне,
Язычнік у адрачэнні,
Бога ўсявышняга раб.

### ЛЯМЕНТАЦЫЯ ІІ

...Надеждами будущих благ веселяться.
Кірыла ТУРАЎСКІ.

Рала баразны вяло па зямлі...
Стрэламі сеяў татарын смерць...
З-пад капытоў зярняты ўзышлі...
Надзеямі сэрца цешыць смерд.

Галавешкі пажарышч — набок!..
Слёзы ўскіпалі, паўшы на жар...
Рукі мазоль ад сякеры апёк...
Надзеямі сэрца цешыць цясляр.

Бацька не ўстаў, прабіты стралой...
Вырас курган паміж балацін...
Меч харалужны кранае рукой,—
Надзеямі сэрца цешыць сын...

### ЛЯМЕНТАЦЫЯ ІІІ

...буди покръв граду нашему от всякого зла...
Кірыла ТУРАЎСКІ.

Хтосьці мячы вастрыў, у калчаны
Стрэлы атрутныя клаў.
Па завуголлях сядзяць маўчуны,
Я — заклінаў ад зла.

Хто ж вінаваты, што сотні раз
Горад гарэў і мёр!..
Колькі нягод было і абраз,
Колькі ахвяр і шор!..

Не ўратавала слова ад іх —
Сэрца збалелага гук,
Ды не пусты ён, калі з рук маіх
Ты яго возьмеш, унук.

Слова маё ад усякага зла
Здзейсніла ўсё, што магло.
Іншае нешта — не ад святла —
Горада не зберагло.

Колькі нягод было і абраз,
Колькі ахвяр і шор!..
Не вінават я, што сотні раз
Горад гарэў і мёр!..

### ЛЯМЕНТАЦЫЯ IV

...безумнии в людех сановници буи во неръех! Когда умудритеся? Навсажи ужо не слышит ли и создавы око не смотрит ли!
Кірыла ТУРАЎСКІ.

Хто вас нібы перайначыў,
Душы нібы карчуе!..
Маючы вочы, не бачаць,
Маючы вушы, не чуюць!..

Адгарадзілі сабе вы
У ненасытнасці хцівай
Самыя лепшыя дрэвы,
Самыя жызныя нівы.

Адгарадзілі сябе вы
Холадам чэрствым разліку
Ад дабрачынных паневаў
Шчырасці, дружбы вялікай.

Уздзеўшы бліскучыя рызы,
Узнёсшы распяцце Хрыстова,
Павыдавалі капрызы
Свае
за ўсявышняга слова.

Што вам, што хтось недзе плача,
Скажа «хачу», «не хачу я»,—
Маючы вочы, не бачаць,
Маючы вушы, не чуюць.

Прагнуць адно што свінячай
Павінаваўчай пакоры,
Згоды ліслівa-сабачай
Без абурэнняў, дакораў.

У санах сваіх ашалелі,
Толькі сабою заняты,
Творачы з боскай купелі
Пекла няволі праклятай.

О, сябелюбства лядачасць
Мудрасцю ці патапчу я!!
Маючы вочы, не бачаць,
Маючы вушы, не чуюць...

### ЛЯМЕНТАЦЫЯ V

...С кымь моих сльз излъю потокы!
Кірыла ТУРАЎСКІ.

Буйна акацыі цвет сыпаць будуць
Тут, дзе маліўся, даваў зарокі,
Дзе ад нябёсаў вычэкваў цуда,—
З кім маіх слёзаў злію патокі!!.

З лёхаў глухіх саркафаг дастануць
З цёплай зямліцы маіх першых
крокаў,
Вечнае з ёй накануюць расстанне,—
З кім маіх слёзаў злію патокі!!.

Прыйдзе хто, гляне ці не пагляне
На край пакуты, як Прыпяць,
глыбокай,
Залатавусна хто ці ўспамяне!..
З кім маіх слёзаў злію патокі!..

### ЛЯМЕНТАЦЫЯ VI

...и свою каяждо поющи пѣснь...
Кірыла ТУРАЎСКІ.

Песню толькі сваю
Салавейка пяе.
Іншым сілы прапець
Так, як ён, нестае.

Песню толькі сваю
Перазвоніць камар,
Таўкачы, нібь мак,
Без натхнення і мар.

Песню толькі сваю
Прашапоча трава,
Як слязінку, расу
Атрасе ў далавах.

І нашто прымушаць
Камара, салаўя
Ці травінку спяваць,
Як пяю, грэшны, я!..

### ЛЯМЕНТАЦЫЯ VII

...Не сольнуть бо ся грѣшнича словеса...
Кірыла ТУРАЎСКІ.

Толькі тая песня песняй стане,
З радасцю зліецца салаўёў,
Калі словы ў роснае світанне
Выйдуць, як гаі да ручаёў.

Толькі тая песня песняй стане
Пад блакітам звонкім жаўрука,
Калі словы ў шчырым хваляванні
Стомленая прыгарне рука.

Толькі тая песня стане цудам,
Зоркай узгарыцца з-над раллі,
Калі праўду залатою грудай
Выкаціць на самы край зямлі!..

### ПАСЛЯСПЕЎ

Рыбари полну мрежу ловитвы абрътають...
Кірыла ТУРАЎСКІ.

Як і тады, вочкі мружацца
сетак
На санцапёку ля падпаветак.
Як і тады, чайкі-лодкі
па хвалях
У вечаровую стынь
адплывалі.

Як і тады, на макруткім дне лодкі
Б'ецца зяленчык-шчупак разам з
плоткай.

Як і тады, за другой Перадоляй[2]
Песня лунала пра невад і долю,—

І толькі крыж — сімвал вечнасці
рэчаў
Не аказаўся над Прыпяццю вечны.

---

[1] Вашчаты — адзін з кварталаў старажытнага Турава.

[2] Урочышча ля Турава.

З пошты ЛіМа

# ЦІ БЫЦЬ МУЗЕЮ?

Гады тры назад па запрашэнні калгаснікаў вёскі Якушоўка я прыехаў да іх, каб дапамагчы афарміць музей Кастуся Каліноўскага, імя якога носіць калгас. І была дзелавая размова з былым старшынёй калгаса У. Сачко аб тым, каб на аснове сабраных мной экспанатаў (а іх у мяне некалькі сотняў — газетных і часопісных артыкулаў, мастацкіх твораў і навуковых прац аб Каліноўскім, партрэтаў яго і ягоных паплечнікаў) стварыць музей у калгасным клубе.

Мяне ж зацікавіла другое памяшканне — былая царква. На ўзвышшы, сярод векавых дрэў, невялічкі, зграбны будынак і дасюль здзіўляе сваёй прыгажосцю. Вось дзе змясціць бы музей! Сваімі думкамі я падзяліўся з заслужаным дзеячом мастацтваў БССР Паўлам Масленікавым (ён якраз працаваў над эскізамі да оперы «Кастусь Каліноўскі») і кампазітарам Дзмітрыем Лукасам.

І вось мы разам разглядаем і клуб, і будынак царквы. Павел Васільевіч згадзіўся, што лепшага памяшкання для музея не знойдзеш. «Калі тут зрабіць усё, як належыць, музей на сваім мастацкім узроўні можа быць адным з лепшых у рэспубліцы»,— сказаў ён.

Тады я звярнуўся да кіраўніцтва Свіслацкага раёна з прапановай увекавечыць памяць слаўнага сына беларускага народа, і была спецыяльная пастанова бюро райкома КПБ аб стварэнні на радзіме Кастуся Каліноўскага, у вёсцы Якушоўка, мемарыяльнага музея. Аднак і новае памяшканне не будуецца, і царква пустуе...

Успамінаю, як два гады назад, калі мы рабілі замалёўкі ля Якушоўкі, да нас падышла пажылая кабета. Даведаўшыся аб нашым намеры стварыць музей яе земляка, разгаварылася:

— Летам да нас прыязджаюць турысты з усёй Беларусі, а часам і з Літвы, каб паглядзець радзіму Кастуся Каліноўскага. Прыедуць, пасядзяць на гэтым узгорку, дзе раней была сядзіба Каліноўскага, і едуць назад. Крыўдна!

Зноў і зноў пры сустрэчах з Паўлам Васільевічам мы ўспаміналі тую маленькую цагляную царкву, якая і рамонту патрабуе не надта ўжо і вялікага: адрамантаваць дах, паслаць новую падлогу, зашкліць вокны. А афармленне?..

Летась паспяхова абараніў дыплом мастака ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце Рыгор Данчанка. Тэма яго дыпломнай работы «Музей Кастуся Каліноўскага». І не дзе-небудзь, а ў той царкве. Рыгор сам пабываў у калгасе імя Кастуся Каліноўскага. Рабіў там замалёўкі мясцовасці, царквы, абмерыў усе інтэр'еры і распрацаваў экспазіцыі будучага музея. Як кажуць, пачатак зроблены. Без грашовых затрат. Мы з мастаком Паўлам Васільевічам Масленікавым маглі б зрабіць на грамадскіх асновах эскізы афармлення музея. У тэатральна-мастацкім інстытуце ёсць факультэты ўсіх профіляў. Калі б вырашалася прапанова аб стварэнні музея Кастуся Каліноўскага ў былой царкве — мы б змаглі прыцягнуць да афармлення студэнтаў старэйшых курсаў.

Увогуле, калі б кіраўніцтва вобласці, абласное ўпраўленне культуры на Гродзеншчыне зацікавіліся гэтым, то музей быў бы створаны. Ёсць музеі А. Суворава — у Кобрыне, П. Баграціёна — у Ваўкавыску, Ф. Багушэвіча — у Ашмянах, А. Міцкевіча — у Навагрудку. Але пакуль што няма музея Кастуся Каліноўскага. А ён павінен быць!

Д. МАСЛАЎ,
мастак.

**СЯРОД КНІГ**

значнасці іншага свету: «Адчуваеш, што зялёны перад сталасцю другіх».

Сталым, асэнсаваным становіцца вяртанне ў дзяцінства, пачатак злучаецца з працягам як узважаны вопыт і высокая адказнасць:

**Вайна прайшла шыронай**
**баразной**
**І цягнецца з дзіцячае калыскі:**
***Я стольkіх не далічваюся блізкіх,***
**Што нават сёння дыхаю вайной!**
**І не мая, напэўна, у тым віна,**

**Што ўсё бліжэй, бліжэй на мне**
**вайна,**
**І дымам цягне ад знаёмых**
**стрэх...**

Узрастае душэўная ёмістасць і жыццёвая ўмяшчальнасць успамінаў: «Ну што ж, было. Галеча, гора... А гора ў нас было такім, што лес і поле, нават зоры прапахлі дымам на вякі». І чуйнасць, здатнасць адчуць чужое як сваё абвастраюцца, мацнеюць:

**Асколкі ў целе носіць інвалід,**
**І столькі,**
**што і зблізку, і здаля**
**Прыцягвае уладна, як магніт,**
**Жалезная зямля.**

Адкрываецца новы і новы сэнс ва ўсім — і ў чалавечых справах, і ў ціхіх зменах прыроды («Пажухлы ліст на дрэвах не відзён. Апошні яблык коціцца з галіны. Іглінцы асыпаюцца з яліны, і над зямлёй вясёлы перазвон»), у сустрэчах, развітаннях, вяртаннях.

І ўжо ніхто, мабыць, не прапусціць міма душы верш «Няма мяне», дзе ў гушчыні пачуццяў мясцяцца і страснасць, юначы запал, і тонкі лірызм, дзе драматычнае змешваецца з вясёлай усмешкай, дзе ўяўленне паэта надае будзённай гісторыі («згубілася ў ваенкомакі мая папера між папер») нечаканую пачуццёвую значнасць:

**І як я мог, і дзе згубіўся —**
**Няўжо нікога не кране?**
***Я не ўтапіўся, не разбіўся.***
**...Няма мяне... Няма мяне...**
**Няма ні тут, ні там, за дымкай.**
**Няма ў дзвярах няма ў акне.**
**Няма мяне ў тваіх абдымках**
**Няма мяне... Няма мяне.**
**І толькі там, пазней, з палёгкай**
**У сне, што прыйдзе незнарок,**
**Убачыш, як душа далёка**
**Да зор ляціць, як матылёк.**

Летуценнік, рамантык, жыццялюб... Анатоль Сербантовіч поўніўся жыццёвай радасцю, каханнем — чыстым, сарамлівым, цнатлівым, прагай жыцця і творчасці. Ён не мог прыняць раўнадушша, душэўную пустэчу, звыклы сон бязмэтнага існавання. Ён адмаўляў іх усёю сваёй істотай, ён хацеў быць з людзьмі ў радасці і трывогах, глядзець на свет «вачамі маладымі», адчуваць, «як пастушка ловіць вецер у далоні, каб гарачы твар свой астудзіць», узнімацца на «сіні парог», адкрываць новае, ісці і ісці..

Яго няма сёння з намі, ёсць толькі яго кнігі, вершы. Яны шмат нам даюць і пра многае гавораць. Мне здаецца вельмі істотным адна рыса яго чалавечага характару і творчых паводзін: у жыцці і творчасці ён імкнуўся быць і быў гранічна шчырым, пісаў толькі па душэўнай патрэбе. Жыў напружана і трывожна. Гэта, мусіць, і ёсць тое, без чаго нельга быць сапраўдным паэтам.

**Варлен БЕЧЫК.**

---

ні па пакутах сумлення прыводзяць маладога чалавека да дзвярэй роднай рэдакцыі — ён вырашае папрасіць прабачэння ў Камовіча праз эфір. Гэта яму ўдаецца — з дапамогай саккратара райкома, а таксама намесніка старшыні гарвыканкома. Праўда перамагае: Камовіча, можна сказаць, сілай прымушаюць вярнуцца ў калгас. Супакойваецца і сумленне журналіста. Героі аповесці радуюцца, але чытач застаецца абыякавым. Ён думае: вось як усё хутка і проста атрымалася на паперы. А ці так гэта на самай справе? Ужо вельмі лёгка падышоў аўтар да гэтай тэмы. ды і «мяцеж духу» маладога чалавека часам падобны на дрэнную «гульню ў героя», на мітусню незадаволенай фанабэрыі...

Аб гэтым гаворыш са шкадаваннем. Таму што — мы адчуваем! — аўтар ведае, што ўсё было **не так**, і таксама «іграе» — перад чытачом... Пакінем гэту ігру на яго сумленні.

**Б. КАЗАНАЎ.**

---

*НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ*

# ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА

**В**ОСЕННЮ 1955 года мне, разам з аднакурснікамі - філолагамі, пашчасціла ўпершыню пабачыць і пачуць народнага песняра Якуба Коласа. Было гэта ў клубе Саюза пісьменнікаў. Мы, зразумела, губляліся, хваляваліся, адчуваючы «священный трепет» перад вядомымі пісьменнікамі, уважліва лавілі кожнае слова іх выступленняў. І вось на трыбуне — Якуб Колас! Яго выступленне ўразіла нас і запомнілася на ўсё жыццё. У прамове народнага пісьменніка не было гучных, пафасных слоў, якія ў той час па інерцыі яшчэ паўтаралі некаторыя прамоўцы. Ён дзяліўся сваім багатым літаратурным вопытам з пачаткоўцамі, заклікаў іх глыбей вывучаць жыццё і народную мову, яго непакоіла, што ў сельскай гаспадарцы яшчэ шмат недахопаў (а яны сапраўды былі на той час), што нашы палеткі засмечаны каменнямі, што ў некаторых калгасах не ставяць громаадводаў, з-за чаго ўзнікаюць пажары і марна нішчыцца народнае дабро. Прызнацца, спачатку гэтая падкрэсленая будзённасць прамовы, заклапочанасць песняра «прозай жыцця» нават крыху расчаравалі нас: жыццё нам тады ўяўлялася ў ружовым святле, без яго рэальных цяжкасцяў і супярэчнасцяў. І толькі пасля мы змаглі як належыць ацаніць гэтае выступленне Якуба Коласа, яго зямную прастату, мудрасць, чалавечнасць, непарыўную еднасць з народам.

І яшчэ запомнілася. Нехта з прамоўцаў шчыра пашкадаваў, што ні радыё-, ні кінажурналісты не паклапаціліся аб тым, каб запісаць на плёнку і захаваць для нашчадкаў гэтае цудоўнае выступленне Якуба Коласа (праз некалькі месяцаў перастала біцца ягонае сэрца). Цяпер, з гадамі, асабліва крыўдна, што радыёслухачы і тэлегледачы ніколі не змогуць пачуць-пабачыць гэтую прамову, якая б духоўна ўзбагаціла іх, дадала б новыя, свежыя фарбы да незабыўнага вобліка паэта...

Усё гэта прыгадалася мне, калі я глядзеў апошнія тэлеперадачы, прысвечаныя Якубу Коласу. Мінулым летам Беларускае тэлебачанне двойчы паказвала перадачу «Твой сад цвіце у радаснай краіне». У ёй ішла гаворка пра неўміручасць паэзіі Коласа, пра яго вялікую душэўную шчодрасць. І хоць у перадачы не было вострага, закручанага сюжэта, багатага выяўленчага раду, складаных мантажных пераходаў, глядзелася яна з вялікай увагай і неаслабнай цікавасцю. Сакрэт поспеху ў тым, што ў ёй была прадумана драматургія выступленняў пісьменнікаў, што гаворку пра песняра вялі людзі, якім было што сказаць, якія добра ведалі дзядзьку Коласа, мелі шчасце часта сустракацца і гутарыць з ім. Сваімі ўспамінамі пра Якуба Коласа падзяліліся П. Броўка, К. Крапіва, П. Пестрак, М. Аўрамчык, С. Грахоўскі, сын паэта Даніла Канстанцінавіч. Усе яны гаварылі надзвычай цёпла, пранікнёна, са шчырым хваляваннем, і гэтае хваляванне перадавалася нам, гледачам, кожны сваім лаканічным, эмацыянальным расказам дабаўляў трапную рысну да тэлепартрэта класіка роднай літаратуры.

Праз нейкі час тэлебачанне зноў вярнулася да гэтай тэмы. Літаратурна-драматычная рэдакцыя тэлестудыі зрабіла перадачу пра вытокі творчасці народнага песняра, пра яго бацькоўскі кут, дзе ён рабіў першыя крокі, спазнаваў сябе, свет і людзей.

Стаўбцоўшчына... На блакітным экране праплываюць цудоўныя краявіды, так эмацыянальна і ўзнёсла апетыя Якубам Коласам. Мы бачым хату, дзе нарадзіўся будучы паэт, леснічоўку Ласток, дзе прайшло яго ранняе дзяцінства і дзе ўражлівае сэрца Кастуся пачало ўбіраць у сябе «малюнкі родныя і з'явы», дзе ён упершыню пачуў расказы простых людзей пра іх беднасць і горкае бяспраўе.

Затым тэлекамера прыводзіць нас у лясны гушчар, на бераг возера, якое апета песняром у многіх творах. На беразе возера — Я. Брыль. Ён гаворыць аб тым, што першыя гады жыцця паэта былі самыя ўражлівыя, багатыя на ўспрыняцце навакольнага свету, што яны наклалі свой адбітак на ўсё яго далейшае жыццё і творчасць... Тэлекамера кружыць вакол леснікова́й сядзібы Альбуць. Мы бачым велічныя дубы, што ўзнеслі свае шаты высока ў неба, урачыста-задуменныя елкі і сосны. А па-за кадрам гучаць знаёмыя з маленства, хрэстаматыйныя радкі коласаўскай паэзіі. Гідам тут выступае паэт А. Лойка. Сардэчна і шчыра згадвае ён, што тут, у коласаўскіх мясцінах, яму заўсёды прыходзяць на памяць радкі з «Новай зямлі» — гэтай энцыклапедыі жыцця беларускага селяніна, у якой паэт пераканаўча даказаў неабходнасць і разам з тым непазбежнасць прыходу новага, свабоднага жыцця.

— Кожны раз, — гаварыў А. Лойка, — здзіўляешся вялікай сіле мастацкай тыпізацыі і абагульнення ў Якуба Коласа. Здавалася б, спісаныя з натуры вось гэтыя цудоўныя мясціны, людзі, што тут жылі, але разам з тым гэта абагульнены вобраз усёй нашай зямлі, усяго беларускага народа. І я шчаслівы, што ведаў песняра блізка, што сустракаўся з ім, што меў магчымасць напісаць пра яго і яго цудоўныя кнігі...

А дыктар затым апавядае пра жыццёвыя дарогі, якія павялі будучага народнага паэта з Альбуці ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, пра сцежкі-пуцявіны, якімі прайшоў Якуб Колас разам з іншымі рэвалюцыйна-настроенымі педагогамі на нелегальны настаўніцкі з'езд.

Потым у кадры — паэт А. Бачыла. Ён расказвае, як у Смольні, у 1912 годзе, упершыню сустрэліся Янка Купала і Якуб Колас. Творчая дзейнасць вялікіх паэтаў, гаворыць ён, гэта ўзор высокага служэння Бацькаўшчыне, паэтычнай справе, узор шчырай адданасці свайму народу.

Затым пры дапамозе блакітнага экрана мы пабывалі ў філіяле музея песняра на беразе Нёмана, дзе нашым гідам выступае І. Шамякін...

«Мой родны кут...». Гэтыя радкі, як і ўся творчасць Якуба Коласа, — сведчанне непарыўнай еднасці, зліцця паэта з жыццём і думамі свайго народа. Прагледзеўшы тэлеперадачу «Радзімы і жыцця пачатак», мы яшчэ раз пераконваемся, наколькі цеснай была гэтая еднасць у паэта. Перадача стала добрым дапаўненнем да ранейшага тэлепартрэта песняра. Шкада толькі, што здымкі рабіліся ў пахмурны дзень, і аператару не ўдалося перадаць ва ўсёй красе цудоўныя коласаўскія мясціны.

Сёлета наша рэспубліка рыхтуецца шырока адзначыць 90-годдзе з дня нараджэння волатаў нацыянальнай літаратуры Я. Купалы і Я. Коласа. Работнікі Беларускага тэлебачання робяць нямала ў справе падрыхтоўкі да юбілеяў. У прыватнасці, яны мяркуюць прадоўжыць цыкл перадач пра Якуба Коласа — расказаць пра педагагічную дзейнасць паэта, пра яго дружбу і творчыя сувязі з рускімі і ўкраінскімі пісьменнікамі, пра ташкенцкі перыяд яго жыцця ў гады вайны. Добра было б, каб на тэлеэкране з'явіліся падобныя перадачы і пра Янку Купалу.

І тут я зноў хачу вярнуцца да таго, з чаго пачаў. Стварэнню тэлевізійных літаратурных партрэтаў у значнай ступені дапамагаюць дакументальныя запісы галасоў пісьменнікаў, іх выступленні, замацаваныя на кінаплёнцы, кінаўспаміны сучаснікаў і г. д. На вялікі жаль, гэтых каштоўных дакументаў захавалася вельмі мала. Самі работнікі радыё і кінахронікі ў свой час не заўсёды клапаціліся аб тым, каб зрабіць і захаваць такія запісы. Вышэй я гаварыў, якое недаравальнае ўпушчэнне зрабілі нашы дакументалісты, не запісаўшы адну з апошніх прамоў Я. Коласа. Такіх прыкладаў было шмат.

А справа гэтая надзвычай важная. Бо не толькі кнігі, але і жывы чалавечы воблік майстроў роднай літаратуры будуць заўсёды цікавіць і хваляваць нашчадкаў. Як, напрыклад, хвалююць нас цяпер унікальныя кінакадры, на якіх зняты Леў Талстой у Яснай Паляне, ці «жывы голас» Аляксандра Блока. Зараз галоўны клопат і абавязак па зборы і сістэматызацыі ў сваіх архівах духоўнага летапісу эпохі, у тым ліку па ўвекавечванні і захаванні на плёнцы жывых воблікаў выдатных дзеячоў літаратуры і мастацтва, кладзецца на тэлебачанне. Як жа яно спраўляецца з гэтым пачэсным і адказным абавязкам? Не маючы намеру кінуць цень на ўсіх работнікаў тэлебачання, усё ж мушу сказаць, што пакуль кепска. Нашы тэлеархівы амаль пустыя. У іх фондах цяжка адшукаць запісы выступленняў пісьменнікаў, пра якіх нам хацелася б даведацца як мага больш, убачыць іх жывымі на малым экране, пачуць іх думкі і меркаванні, паслухаць аб іх успаміны сучаснікаў. Тлумачыцца гэта, пэўна, тым, што большасць перадач, як правіла, «размагнічваецца», і такім чынам не застаецца і следу ад «творчых пакут» літаратараў перад тэлекамерай. Растлумачыць гэта адным «голадам» на плёнку цяжка.

Зразумела, тэлебачанне — мастацтва жывое, сённяшняе. Аднак гэта не значыць, што яно не павінна клапаціцца аб заўтрашнім дні. Тэлебачанню зараз вельмі патрэбны сапраўдныя збіральнікі-энтузіясты, якія б карпатліва збіралі кожны унікальны здымак, кожную цікавую стужку, каб пасля не шкадаваць аб незваротным, безнадзейна страчаным.

Вядомы тэлекрытык Ул. Сапак неяк заўважыў, што тэлевізійны партрэт — гэта якраз тыя шчаслівыя моманты, калі тэлебачанне становіцца мастацтвам. Думка слушная. Што гэта так, неаднаразова пацвярджалі лепшыя тэлевізійныя перадачы, у тым ліку і нашага, Беларускага тэлебачання. Жанр тэлевізійнага партрэта атрымаў тут сталую прапіску. Ён дазволіў заглыбіцца ва ўнутраны свет герояў, наблізіць іх да тэлегледачоў, раскрыць іх душэўнае багацце, стварыць асаблівую атмасферу цеплыні і шчырасці. У лепшых тэлепартрэтах нашых сучаснікаў знайшлі ўвасабленне асноўныя адзнакі жанру — умелы і дакладны выбар героя, імправізацыйнасць, дакументальнасць і інтымнасць апавядання.

У дадзеным выпадку мы гаворым пра літаратурны тэлепартрэт. На Беларускім тэлебачанні і тут склаліся пэўныя традыцыі. Спробы стварыць літаратурныя партрэты ці хоць бы даць найбольш важныя штрыхі да іх можна заўважыць у многіх перадачах, прысвечаных жыццю і дзейнасці вядомых пісьменнікаў. Зразумела, у гэтай важнай справе не можа быць нейкага шаблону, бо экранныя формы літаратурнага партрэта яшчэ толькі складваюцца, тут шырокае поле для творчых пошукаў. Напрыклад, у адных выпадках аўтары перадач ішлі па шляху драматызацыі асобных эпізодаў з жыцця таго ці іншага пісьменніка і з дапамогай акцёрскай ігры дасягалі мэты. Па такім прынцыпе пабудавана цікавая перадача «Слова пра паэта» (сцэнарый Б. Бур'яна). У ёй даволі глыбока асветлена літаратурная і падпольная дзейнасць В. Таўлая, паэта-рэвалюцыянера, паэта-патрыёта. Па іншым шляху пайшлі стваральнікі літаратурнага тэлепартрэта Алеся Жаўрука «Песня і вяла, і грэла...» (сцэнарыст К. Арлова, рэжысёр Ул. Арлоў). Аўтары ўмела выкарысталі франтавыя пісьмы А. Жаўрука, рэдкія фатаграфіі, кінахроніку ваенных гадоў. Даволі сціплымі дакументальнымі сродкамі быў намаляваны запамінальны партрэт паэта. Удачай трэба лічыць і тэлепартрэт Сяргея Дзяргая. У ім аўтарам удалося раскрыць непаўторны свет яго паэзіі, расказаць пра нялёгкі шлях паэта ў літаратуру, пра яго сціплую мужнасць у гады вайны. У тэлепартрэце добра раскрыта народная стыхія яго паэзіі, глыбіня і мастацкасць яго філасофскай лірыкі, падкрэсліваецца, што паэтычнае слова С. Дзяргая выпраменьвае дабро і любоў, цеплыню сэрцаў і яскравасць думкі — чулай, немітуслівай, гуманістычнай — пра наша жыццё пра наш час (сцэнарый В. Тараса).

Характэрна, што тэлепартрэт паэта даваўся пад рубрыкай «Наш сучаснік», Яно і зразумела: ці не варта ўлічваць і гэтую магчымасць уздзеяння на тэлегледача, якая выходзіць за межы чыста асветніцкага і прапагандысцкага характару жанру літаратурнага тэлепартрэта?

Беларускае тэлебачанне шукае новыя формы падачы літаратурнага матэрыялу. Радуе, што яно не задавальняецца знойдзенымі, раней адкрытымі прыёмамі. У апошні час літаратурныя партрэты пісьменнікаў на блакітным экране сталі больш змястоўнымі, у іх больш точка і прафесійна аналізуецца творчасць, больш дасканала перадаецца непаўторная індывідуальнасць таго ці іншага майстра слова. Тэлепартрэты, уваскрашаючы старонкі жыцця нашых вядомых пісьменнікаў, даносяць да гледачоў магічную сілу мастацкага слова, даюць нам магчымасць зазірнуць у іх творчую лабараторыю, выхоўваюць добры мастацкі густ. Пажадаем жа работнікам тэлебачання добрага плёну ў гэтай важнай справе.

**В. КУЦЭНКА,**
**аспірант БДУ**
**імя У. І. Леніна.**

# ПАСЛЯ СТРЭЛУ

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

галаве пацэліў Рахім, Зазыба не знайшоў, бо звер пасля стрэлу паваліўся на зямлю тым, прастрэленым правым бокам; нячыстая, як забруджаныя белая поўсць на магутных грудзях была вымазана ўжо крывёй, што нацякла на сцежку з нябачнай раны. Відаць, сахаты зусім не біўся ў перадсмяротных сутаргах, бо зямля вакол была не папорканая — ні там, дзе ляжалі цяжкія рогі, што яшчэ не паспелі як трэба адрасці ў гэтым годзе і пасынкі тырчалі, бы чортавы пальцы, ні супроць капытоў, вузкіх і раздвоеных, як у звычайнага вала. Лёгкая смерць зусім не абязвечыла ляснога волата. І калі б не кроў на сцежцы ды гэтая бездыханная нерухомасць яго, то льга было падумаць, што звер раптам нечага забавіўся тут і заснуў, адно няўдалае месца сабе выбраў, а людзі, якія стоўпіліся вакол, ішлі аднекуль па сцежцы ды прыпыніліся на хвіліначку падзівіцца, злашча дзівіцца і праўда было з чаго: лось вырас на волі прыгожы — з цяжкімі грудзямі і лёгкім, быццам для палёту коса адсечаным азадкам, з тонкімі, акурат выкачанымі нагамі, светлая поўсць на якіх заходзіла вышэй калена, з сухарлявым, як ніколі не кормленым жыватом, праз які ледзь не ад завушніцы бялела шырокая палоса... Зазыба спакваля, як у ціхманай задуманасці, абышоў кругом сахатага — упершыню ж даводзілася бачыць гэтак блізка, тады зноў вярнуўся да узгалоўя. Мінаючы тое месца, дзе ляжалі, бы паваленая царская крэсла, разгалістыя рогі, ён неасцярожна зачапіўся левай нагой за крайні пасынак, самы даўжэйшы з усіх, але ласёва галава ад гэтага, здаецца, нават не зварухнулася, толькі балюча засадніла вялікая бярцовая косць, якой Зазыба выцяўся.

Пакуль Зазыба з непадробнай цікавасцю аглядаў забітую жывёліну, адбылося нечаканае — нават не столькі нечаканае, колькі непрадбачанае, прынамсі сёння, бо найважнейшыя падзеі гэтага дня пэўна ўжо адбыліся: зранку верамейкаўцы ўзяліся за падзел калгаса (хіба не падзея?), а цяпер вось татарын Рахім застрэліў сахатага (таксама мужыкам размоў на цэлыя гады!). Такім чынам, дзень і так ужо быў поўны адметнымі падзеямі быццам укоптарак. Здавалася б, якога ражна яшчэ? Але здарылася менавіта тое, чаго ў Верамейках хоць і са страхам, аднак чакалі. Па адным ужо тым, як раптам аціхлі вакол галасы, Зазыба мог даўмецца, што людзей нешта насцярожыла. Але ён яшчэ патупаў трохі, быццам толькі цяпер усведамляючы, якая недарэчнасць выйшла з гэтым забойствам; ён ужо гатовы быў апякчы вачамі і самога стральца, ажно пачуў гарачы шэпт, няйначай, хтосьці успомніў маліцца, хоць для малітвы ў голасе было залішне трывогі і плаксівай разгубленасці. Між тым, адгадка была простая — да сухадолу імчалі, гарцуючы ў сёдлах, нямецкія коннікі. І ўсе ўжо, акрамя Зазыбы, бачылі іх — і Чубар, які баяўся выйсці на луг з-за кустоў ядлоўцу, і тыя кабеты, што не пабеглі разам з іншымі да крыніцы, а па-ранейшаму хапаліся жаць у Паддубішчы, і, вядома, усе на сухадоле. Зазыба падняў галаву ўжо на выразны тупат конскіх ног. Рассыпаўшыся паўкругам па схіле, коннікі відаць што мелі намер захапіць натоўп знячэўку, каб ніхто не здолеў уцячы ў лес, да якога рукой падаць. Той-сёй з верамейкаўцаў, падпарадкоўваючыся інстынкту самазахавання, пачаў неўпрыкмет адступацца назад, патрапляючы стаць суседу за спіну. Следам за коннікамі, калываючыся на выбоінах, выпаўз з-за пагорка і пакаціўся па ўзмежку лёгкі двухвосны бронеаўтамабіль «Хорх».

Зазыба другі раз бачыў немцаў — тады, як вазіў у мястэчка Марылю, і вось цяпер. Але ў ададрозненне ад першага разу сёння ён нават не спалохаўся, згледзеўшы іх. Здаецца, ні адна жылка не здрадзіла і не страпянулася ў ім. Халоднымі вачамі абвёў ён на захадзе па самым грэбні пазлацанае ўзвышша і са спакойным клопатам, як толькі здольны рабіць спрактыкаваны пастух са збрадлівым статкам, пералічыў коннікаў. Немцаў было дзевяць, вядома, апрача тых, што ехалі ў бронеаўтамабілі. Але праз коўраты ўжо на гуцянскую дарогу выступала з вёскі цэлая вайсковая часць...

Зазыба чакаў, пакуль наблізяцца немцы, усё больш пранікаючыся тым, што адбывалася на яго вачах; ураўнаважанасць, можа нават і сапраўды спакойнасць, з якой ён адкрыў для сябе блізкую прысутнасць немцаў, паступова пакідала яго, і ён самым звычайным чынам пачынаў хвалявацца: мусіць, настрой аднавяскоўцаў паступова перадаўся і яму. Як перад вялікім выпрабаваннем, Зазыба глянуў па два бакі ад сябе. Справа, амаль прыхінуўшыся да яго пляча, стаяў і таксама не зводзіў палахліва-здзіўленых вачэй з немцаў Парфён Вяршкоў. Ад таго, што поруч апынуўся менавіта гэты чалавек, зрабілася хораша на душы ў Зазыбы, вядома, у такой ступені, якую дазвалялі час і акалічнасці, але Зазыба схільны быў прызнаць, што якраз Вяршкова і спадзяваўся ён убачыць бліжэй за ўсіх. Прыкмеціў Зазыба ў натоўпе сярод баб і Марфу сваю. Гэта здзівіла ажно — не думалася, што і яна тут. Марфа стаяла трохі наўскасок і ззаду, але, здавалася, зусім не талопіла вочы, як іншыя, на немцаў, якія ўжо міналі крыніцу, нібыта ў душы яе перад імі не было страху. Позірк яе бліскучых вачэй быў скіраваны на мужа. У ім Зазыба прачытаў недаўменне, усёроўна як Марфа не разумела чагосьці і вось лавіла момант, каб дазнацца пра тое ад мужа. І яшчэ Зазыба ўбачыў — і гэта выклікала ўсмешку, якая хоць і не паспела адбіцца на твары, але пэўна што была недарэчнай: як хаваюць пад сябе квочкі ад спорнага дажджу ці небяспечнага коршуна куранят, так і верамейкаўскія бабы, жагнаючыся ў роспачы, гатовы былі ратаваць цяпер сваіх дачок, адно ставала б на тое андаракоў ды спадніц...

Мала не наскочыўшы на ўтрапёны натоўп, коннікі раптам асадзілі скакуноў. Васьмёра з іх трымалі напагатове кароткія, быццам урэзаныя, карабіны. Дзевяты быў афіцэр. Пра гэта можна было здагадацца нават па шапцы з высокай тульляй, на аколышаку якой блішчала вакол чырвонага, быццам запаленага з сярэдзіны вочка дубовае лісце кукарды з шасцю маленькімі жалудамі. Выгінаючы шыі, рысістыя коні з закручанымі ў куксы хвастамі струнілі нагамі, ледзь не становячыся на дыбкі ад напятых павадоў і моцна секлі падковамі набрынялую атаву. Здавалася, адно паслаб хто з коннікаў повад, як разгарачаны конь рванецца з пенай на зубах далей у натоўп і пачне ўтоптваць у зямлю безабаронных людзей. І ўжо не дай бог, калі гэта зробяць усе разам...

Насупленыя коннікі хціва, быццам крумкачы, агледзелі зверху натоўп і, не вылучыўшы ў ім нічога вартага ўвагі альбо проста пагрознага (гэта найперш, бо сярод мужыкоў стаялі нават два паліцэйскія з павязкамі на рукавах), пачалі раптам выскаляцца адзін да другога: мусіць, недарэчнымі і смешнымі ў сваім утрапенні здаліся ім вясковыя людзі, што сталі насупраць вакол забітага лася, але ні адзін з іх не памкнуўся павесіць — няйначай, без каманды — карабін на плячо. Тым не менш гэтыя дурнаватыя салдацкія ўсмешкі ўжо як не пачыналі здымаць тое ўтрапенне з верамейкаўцаў, бо той-сёй ажно стаў разяўляць — і пэўна ж па-дурному, зусім неўсвядомлена — рот, паказваючы па прыкладзе коннікаў зубы і пераглядваючыся. Але маўклівасць не знікала аж да таго моманту, пакуль не зачмыхаў блізка запылены «Хорх», прывёзшы на ўхаладнелы сухадол смурод адпрацаванага бензіну і выпушчанага вонкі дыму і пах нагрэтай фарбы, што ільснілася, быццам спацелая, на нізкай шасцікутнай вежцы, спераду якой кратаўся кулямёт. Тады нібыта пасмялеў афіцэр. Выпрастаўшы калена і стаўшы на левае стрэмя, ён гопнуўся на рыпучым жоўтым сядле, спрытна перанёс цераз канёў крыж правую нагу ў глянцавым, цалкам кавалерыйскім боце, на абцасе якога бліснула ў вочы сялянам серабром звонкая шпора. Калі афіцэр, ужо стоячы абедзвюма нагамі на зямлі, аддаў другому конніку, што трапіўся бліжэй да яго, повад свайго мышастага, але трохі цяжкаватага на выгляд скакуна і рушыў да верамейкаўцаў, знарок ляпаючы па левай далоні, быццам шпіцрутэнам, плёткай-валасянкай, усе ўбачылі, што гэта быў цыбаты чалавек з кароткім тулавам, якое пачынала тлусцець, можа, якраз на вольных акупацыйных харчах, бо з куртатага кавалерыйскага фрэнча шэрага колеру неяк па-качынаму выпіраў жывот, нават не жывот, а пакуль усяго рахітычнае пузца; галава ў афіцэра была вушастая з кароткай, да самай чырвонай скуры, стрыжкай і дробная, акурат у падлетка, таму і вуграваты твар яго з невыразнымі рысамі здаваўся па-дзіцячы маленькім і нязлосным; прынамсі, гэты нямецкі афіцэр выглядам сваім нават і трохі не нагадваў таго добрароднага тыпу, які нібыта належаў па «сістэме прыроды» да германскай расы. Праўда, апошняя акалічнасць зусім абыходзіла верамейкаўцам. Тыя не толькі не мелі магчымасці займацца цяпер такімі антрапаграфічнымі назіраннямі, але і няздольныя былі наогул па сваёй недасведчанасці, можа, за выключэннем аднаго Брава-Жыватоўскага, які ў адрозненне ад іншых аднавяскоўцаў, што прысутнічалі тут, з большай зацікаўленасцю, а дакладней, ужо амаль свядома ставіўся да ўсяго прачытанага і пачутага. Але ў Брава-Жыватоўскага галава была занята другім. Скеміўшы, што афіцэра няйначай прывабіў застрэлены Рахімам лось, паліцэйскі, як прадстўнік аховы парадку ў вёсцы, кінуўся праз натоўп мужыкоў ды баб расчышчаць шлях, быццам не спадзяваўся, што тыя самі не здагадаюцца альбо, яшчэ горш, не захочуць расступіцца перад немцам. Аднак дарэмна — мужыкоў гэтаму вучыць не трэба. Не паспеў афіцэр зрабіць першыя крокі, а вяскоўцы ўжо заклапочана заварушыліся. Папіхаючы задамі адзін аднаго, яны адхіснуліся на бакі, утвараючы праход да лася, ды так шырока, каб афіцэр не толькі не зачапіўся ненарокам за каго-небудзь, а і не дастаў плёткай. Пакуль ён няспешна, па-буслінаму, тупаў па гэтым праходзе, чыркаючы шпорамі па мурагу і не перастаючы ляпаць па далоні распушанай на канцы, быццам хвост нейчы, плёткай, з якога няскладнай постаці не зводзілі позіркаў багата сялянскіх вачэй, насцярожана-недаверлівых і ліслівых, спалоханых і хітравата-пагардлівых—гэта ўжо цалкам залежала ад таго, як хто разумеў сваю грамадзянскую годнасць, ці нават, калі хочаце, сваю ўяўную вінаватасць перад акупантамі: урэшце, не маглі ж аднолькава глядзець на гэтага афіцэра, напрыклад, савецкі патрыёт Зазыба альбо囗перакідлівы і беспрынцыпны абібок Драніца, добраахвотны паліцэйскі Брава-Жыватоўскі альбо мнагадзетная старшыніха Гаўрыліха... Нарэшце афіцэр дакрочыў да забітага звера і спыніўся блізка ля ўзгалоўя. Тады зноў кінуўся дагаджаць яму Брава-Жыватоўскі, патрапляючы наперад тым бокам, з якога на рукаве ў яго была павязана паліцэйская стужка.

— Пан афіцэр,— пачаў ён як не сваім голасам, ажно было з чаго падзівіцца верамейкаўцам,— гэта вам... вам ад нас вось... гэта прэзент доблеснай германскай арміі ад сялян...

Брава-Жыватоўскі акурат выбраў, з чым найперш звярнуцца да нямецкага афіцэра, думаючы, што сваім паднашэннем выкліча, як у таго міфічнага бога, прыхільнасць, але ён не мог улічыць, што ў гэтага даўганогага і вуграватага заваёўніка апрача пагарды, прасякнутай усведамленнем сваёй вышэйшасці, раптам зварухнулася ў душы звычайная паляўнічая зайздрасць (нездарма ж ён адзін час быў раённым кіраўніком прускага таварыства аматараў прыроды і палявання). Калі загаварыў Брава-Жыватоўскі, паказваючы на нежывога лася, афіцэр зрабіў пакутлівы твар, усёроўна як недавольны стаў, што раптам адарвалі ад прыемнага сузірання; вочы яго нібы патанулі ў прадонні арбіт, схаваліся па самыя зрэнкі пад вадзяністымі павекамі. Афіцэр выразна пачаў злавацца, бо, мусіць, дужа лёгкі, акурат недарослы, быў на злосць, а там ужо, такім чынам, і на ўсё астатняе. Але Брава-Жыватоўскаму пакуль было няўцям. Паліцэйскі толькі падумаў, што немец не разумее ягоных слоў, таму ён адразу павярнуўся да верамейкаўцаў, каб адшукаць у натоўпе Мікіту Драніцу і ўжо з дапамогай таго даводзіць перад афіцэрам свой дабрачынны намер. Мікіта нагадзіўся на вочы хутка—яны з Сіл-

МУЗЫКА, МУЗЫКАНТЫ

# ГУЧЫЦЬ САПФІЧНАЯ СТРАФА

ЦЯЖКА перабольшыць значэнне старажытнагрэчаскіх літаратуры і мастацтва для развіцця еўрапейскіх культур. Кожны вершаваны запіс, расшыфраваны музычны фрагмент, абломак скульптуры ці амфары, якія дайшлі да нашых дзён праз тысячагоддзі, успрымаецца сёння з непераадольным хваляваннем, бо, як глыбока адзначыў Карл Маркс, адлюстроўваць «...дзяцінства чалавечага грамадства там, дзе яно развівалася ўсяго прыгажэй...»

**Сярод вялікіх імёнаў творцаў гэтага далёкага мінулага, што захавала нам гісторыя, адно з найбольш вядомых належыць Сапфо — паэтэсе і музыкантцы, якая ў VII—VI стагоддзях да нашай эры жыла на востраве Лесбас і складала сольныя лірычныя песні, гімны і эпіталамы. Асноўная тэма яе творчасці — каханне і хараство жанчыны, асабістыя перажыванні, вясельныя абрады і да т. п. Мова Сапфо, блізкая фальклорным вытокам, вызначалася рытмічным багаццем. Паэтэса стварыла адну з найбольш вядомых строф антычнай метрыкі, так званую «сапфічную страфу», якой у наступныя эпохі карысталіся Гарацый і Сімеон Полацкі, Пушкін і Брусаў і іншыя сусветна-вядомыя аўтары.**

Яркая творчасць Сапфо і падзеі з цікавага жыцця; сам вобраз паэтэсы (захаваліся невядомых творцаў мастацкія адбіткі паэтэсы, якая іграе на ліры), выклікалі да гэтай незвычайнай асобы ўвагу шматлікіх буйных кампазітараў свету, у тым ліку М. Лысенкі, Ш. Гуно, Д. Пачыні, Ж. Маснэ, якія стварылі оперы «Сапфо»; К. Гольдмарка — аўтара ўверцюры; К. Орфа — аўтара кантаты «Трыумф Афрадзіты» на тэкст эпіталам Сапфо... І вось з паэзіяй вялікай грачанкі адбылася сустрэча ў беларускай музыцы. Першым тлумачальнікам «таямнічасці» сапфічных строф стаў Алег Янчанка — кампазітар, які заўсёды ў творчым пошуку і таму, відаць, кожнае знаёмства з музыкай якога выклікае цікавыя ўражанні і думкі. Так было і на прэм'ера яго вакальна сімфанічнага трыпціха «Песні Сапфо».

**Першая частка трыпціха — «Гімн Афрадзіце», другая — «Элегія» і трэцяя — «Эпіталама». У адпаведнасці з успрыманнем Сапфо кахання, як стыхійнай сілы, тэкст «Гімна» і з'яўляецца палымяным заклікам да дачкі Зеўса дапамагчы закаханай у імкненні сустрэцца з любым. У «Элегіі» (па-грэчаску — песня жальбы) паэтэса мужна параўноўвае чалавека з богам: чалавек, які пазнаў шчасце кахання, мае права так называцца. Але колькі трэба мець сіл, каб дамагчыся адказу на свае пачуцці! — гучыць у элегіі. Нарэшце, урачыстая вясельная песня — эпіталама, якой заканчваецца абрад шлюбу. У ёй гучыць слава жаніху і раскрываецца хараство сустрэчы з любым.**

Як жа сродкамі музыкі прачытаў кампазітар старажытныя вершы, што выконваліся на Лесбасе пад акампанемент ліры? Па-першае, ён вельмі чула паставіўся да іх складанай структуры. Вельмі арганічна змяняючы памер бадай ці не кожнага такта, А. Янчанка напісаў такую вакальную партыю салістці — сапрана, у якой мелодыя цалкам зліваецца з сапфічнымі строфамі вершаў. Мелодыя гэтая вызначаецца таксама інтанацыйнай вастрынёй і ладавымі своеасаблівасцямі. Яна перадае ўсе адценні пачуццяў палкага кахання, што так багата ўвасоблены ў паэтычным змесце.

Не менш ярка выкарыстаў А. Янчанка магчымасці аркестра, які пругка адлюстроўвае ўсе змены настрою ў вакальнай партыі, падкрэслівае іх, не губляючы сваёй мастацкай самастойнасці, спецыфічнасці інструментальнага ансамбля. Аркестр у трыпціху — не толькі акампаніруе спявачцы, ён раскрывае пачуцці больш ярка, маштабна, перадаючы тонкія грані страсці чалавека. Кампазітар звяртаецца да аркестравых тэмбраў, адмаўляючыся, напрыклад, ад партыі скрыпак у партытуры, але шырока і вынаходліва ўжывае басклярнет і контрфагот, віяланчэльсола і фартэпіяна, клавесін і арфу, усю сям'ю труб, трамбонаў, флейт,

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Я З ПРЫЕМНАСЦЮ апусціўся ў глыбокае крэсла, на шыю мне павязалі беласнежную прасціну.

— Пастрыгчы? — жыццярадасна запытаў цырульнік, ляскаючы нажніцамі.

— Не.

— Пагаліць?

— Не.

— Масаж, манікюр?

— Не. Не пытайцеся, усё роўна не адгадаеце,— сказаў я.

Цырульнік моўчкі пазіраў на мяне.

— Можа вы не зусім здаровы? — асцярожна запытаўся ён.

— Наадварот, здаровы, чаго і вам жадаю.




— Дык што ж вам ад мяне трэба?— уздыхнуў цырульнік.

Я зразумеў, што без маёй дапамогі ён ні ў чым не разбярэцца.

— Бачыце, я хачу праверыць, ці пазычыць мне першы сустрэчны 10 рублёў.

— І што ж, я і ёсць гэты першы? — спалохаўся цырульнік.

— Не, вы ўжо трэці. Першыя два бліны выйшлі камяком. Вы трэці, у каго я прашу пазычыць 10 рублёў.

— Але я вас першы раз бачу!

— А калі я вярну пазыку, будзе ўжо другі раз. Уяўляеце, як вам тады будзе прыемна? Вы нібы знойдзеце гэтую дзесятку.

— А зараз я іх нібы страчу?

— Зараз вы проста дакажаце, што вы сумленны грамадзянін, які заўжды згодны дапамагчы чалавеку.

— Сумленнасць за 10 рублёў? Можа хопіць рубля? Адзін у мяне знойдзецца.

— Няма гаворкі. 5 рублёў, не менш.

— Рубель.

— Тры,— стаяў я на сваім.

— Рубель! — не здаваўся цырульнік.

— Добра,— пагадзіўся я,— давайце рубель.

Цырульнік наскроб рубель дробнымі. Я, не пералічваючы, сунуў грошы ў кішэню, зірнуў у люстэрка і сказаў:

— Раз ужо я сеў да вас, можа, паголіце?.. І масаж таксама...

Цырульнік хутка і спрытна зрабіў мяне прыгожым і сказаў:

— З вас рубель.

Я пакапаўся ў кішэні, дастаў усе дробныя — роўна рубель — і пайшоў, адчуваючы, як прыемна пахне ад мяне «Палётам».

Іван СТАДОЛЬНІК

# ПРЫЖЫЎСЯ...

НІХТО ва ўпраўленні дакладна не ведаў, якую пасаду займаў Швэнда, і якая ў яго спецыяльнасць. Бачылі толькі, што ён увесь час круціўся каля начальніцы — Паліны Ціханаўны: то паперку ёй занясе, то аб'яву нейкую прыклеіць, то выкліча каго да Самой.

Саслужыўцы недалюблівалі Швэнду: і яго звычку бясшумна хадзіць, і стацыянарную ўсмешку на гладкім, як калена, твары. Гэтая ўсмешка пакідала яго хіба толькі ў сне. Яшчэ пачалі заўважаць, што часам пасля візіту Швэнды да Паліны Ціханаўны яна пачынала касавурыцца то на таго работніка, то на іншага. За вочы Швэнду звалі сакратаром - машыністам або целаахоўнікам Паліны Ціханаўны.

На працу ён прыходзіў крыху раней, чым трэба, і перш чым адамкнуць свой кабінет, дыбаў да суседніх пакояў, прыкладваў вуха да дзвярэй, хвіліну-другую слухаў, а потым ужо браўся за клямку — спрабаваў, ці замкнёна. У канцы рабочага дня ён паўтараў гэтую аперацыю і апошнім пакідаў установу.

Аднойчы раніцай Швэнда не прыйшоў на працу. Саслужыўцы моўчкі пераглядваліся: што здарылася?

А Швэнду тым часам напаткала бяда. З начы заклала левае вуха, ды так, што на яго ён не чуў зусім. І ў той час, калі Швэндавы калегі губляліся ў розных здагадках, яго ўжо аглядаў урач.

— Доктар, залаценькі, вярніце слых,— век буду ўдзячны,—маліўся Швэнда. — А то без вушэй мне, як без рук...

— Не хвалюйцеся, грамадзянін, — супяшаў доктар, — усё будзе добра. Наладзіцца ў вас слых. Зараз сястрычка возьме шпрыц Жанэ, і пакутам вашым канец.

У Швэнды ажно вочы закруціліся ў лобе, калі ён убачыў, як медсястра ўзяла ў рукі вялікі, з паўлітровую бутэльку, шпрыц. Небарака адчуў сябе самым няшчасным чалавекам на зямлі. Ён уявіў, як прыйдзе да Паліны Ціханаўны, паздароўкаецца, а тая адкажа пытаннем:

— Ну што, Швэнда, чуваць?..

І што ёй гаварыць тады: нічога не чуваць?.. І як паглядзіць на гэта Паліна Ціханаўна? Пэўна, скажа:

— Што ж, мала карысці ад цябе, Швэнда. Мусіць, скараціць прыйдзецца...

А куды тады? Дзе цяпер яшчэ знойдзеш цёплае месца, калі за душой незакончаная сярэдняя адукацыя? Да пенсіі два гадочкі!.. Лічы, жыццё пражыў, а апрача партфеля — нічога ў руках не трымаў. Усё шанцавала. А цяпер і пасад (па яго здольнасцях) кот наплакаў... Паліна Ціханаўна такая чулая — прыжыўся... А тут на табе — бяда.

Ахоплены сваімі горкімі думкамі, Швэнда не чуў, як медсястра ўставіла ў вуха шпрыц-бутэльку, як тугім струменем ударыла вада. Апамятаўся тады, як у вуху нешта шпокнула, быццам нехта даў добрую аплявуху, і адразу адчуў, што слых стаў нармальны, нават пачуў, як бурболіла вада ў тазіку.

— Вось і ўсё ў парадку,—сказаў доктар, усміхаючыся, — брудам вуха забілі... Не збірайце, калі ласка, бруду!

# З ФРАНЦУЗСКАГА ГУМАРУ

Адзін з наведвальнікаў выстаўкі сучаснага жывапісу пытае ў свайго суседа:

— Прабачце, мсье. Не маглі б вы мне сказаць, што намалявана на гэтай карціне?

— Глядзіце, тут падпісана: «Каровы на лузе ў 2000 годзе».

— Але... я не бачу луга.

— Гэта таму, што каровы ўсё з'елі.

— Але... я не бачу кароў.

— А чаму каровы павінны быць там, дзе няма чаго есці?

□

Вядомы пісьменнік Конан Дойль, «бацька Шэрлака Холмса», прыехаў у Рым. Шафёр таксі, які падвёз яго да атэля, спытаў:

— Вы ўпершыню прыехалі ў Рым, сіньёр Конан Дойль?

Пісьменнік здзівіўся:

— Адкуль вы ведаеце маё імя?

— А гэта вельмі проста!—адказаў шафёр. — Вы прыехалі цягніком Кале — Рым: вы апрануты як англічанін, а з кішэні вашага паліто высоўваецца дэтэктыўны раман.

— Цудоўна! — усклікнуў вядомы пісьменнік, здзіўлены тым, што сустрэў другога Шэрлака Холмса.

— А вы не прыкмецілі яшчэ чаго-небудзь?

— Не, не прыкмеціў, акрамя вашага імя на багажы.

□

Аднойчы ноччу вядомы ўрач быў выкліканы да свайго кліента.

Хворы сказаў яму:

— Ах, доктар, я адчуваю, што хутка памру.

Урач агледзеў хворага, затым кажа:

— Вы напісалі завяшчанне?

— Не,— адказаў той і збялеў.

— Тады пашліце па натарыуса. Пазавіце вашага бацьку і двух вашых сыноў.

— Я ўсё ж памру?..

— Ды не... Але я не хачу быць адзіным дурнем, якога вы разбудзілі і вымусілі дарэмна прыйсці сюды.

□

Вучням чытаюць лекцыю па гігіене.

— Дзеці, чысціня — зарука здароўя.

— Ды не, мсье,—усклікнуў адзін з вучняў,— вядома, што Марат памёр у сваёй ванне.

□

У вагоне для некурцоў адзін пасажыр звяртаецца да свайго суседа:

— Тут забаронена курыць.

— Я не куру.

— Вы трымаеце люльку ў зубах!

— Ну і што? У мяне на нагах чаравікі. Але гэта не значыць, што я зараз хаджу.

Пераклад з французскай Віталя АГРЫЗКІ.

Яўген ВЕРАБЕЙ

# КАХАННЕ ПАЭТА

Прыйшла мая царэўна-лебедзь,
Святлом напоўніла пакой.
Перабірае і цярэбіць
Мой чуб ласкаваю рукой:
— Я крышку пасяджу з табой...
— Што ж, пасядзі. У мяне якраз
Лірычны міг... не адарвацца!
Кладзецца ў рытм за сказам сказ
І сыпле дождж алітэрацый...
Канчаю верш якраз адзін
Аб тым, як я цябе кахаю.
Прыйдзі праз некалькі гадзін—
Не адракуся, прачытаю
Перад табою на каленях.
— Дурны!—Надзьмулася царэўна
І шарпанула клямку гнеўна.—
На чорта мне тваё натхненне...

# МІМАХОДЗЬ

□ Аб'ява: «Да ведама журналістаў: Згубленыя газетныя штампы лічыць несапраўднымі».

М. ШЛЯФЕР

□ Ёсць спевакі, у якіх добрая дыкцыя праяўляецца толькі ў кабінетах начальства.

□ І сярод атэістаў знаходзяцца аматары пажыць, як у Хрыста за пазухай.

Д. ПАЛОНСКІ

□ Часам дастаткова прагледзець змест кнігі, каб пераканацца ў яе беззмястоўнасці.

□ Набыў сабе славу снайпера па кіданні камення ў чужыя агароды.

У. ДАНІЛАЎ

□ Перш чым зарэгістраваць шлюб, ад жаніха і нявесты патрабавалі пасведчанне аб каханні.

□ Спытайце ў падлюгі, што такое подласць — палезе за слоўнікам.

Г. КРУГЛОЎ

□ Усё жыццё марыў абысці ўвесь свет і стаў... прайдзісветам.

М. ХАМЯНКОЎ

□ Спачатку было слова. Потым словы, словы, словы... Літаратура ўзнікла пазней.

□ Яму выдалі пасведчанне аб бессмяротнасці, а ён узяў ды памёр. Нядобра атрымалася: падвёў адказную ўстанову.

У. ТРАЦЦЯКОЎ.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 01641.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.